ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 40 (2598) 8 кастрычніка 1998 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 2000 рублёў.

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



У Ляўкі, дзе некалі была дача Янкі Купалы, часта прыязджаюць госці. Асабліва ў дні памятных дат і юбілеяў, звязаных з жыццём і творчасцю славутага народнага песняра.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

ВЫСТАВА, ЯКОЙ НЕ БЫЛО Ў МІНСКУ 10 ГАДОЎ

## НА ШТО ЗДОЛЬНАЕ МАСТАЦТВА МАЛАДЫХ

У Палацы мастацтва прайшла выстава-конкурс маладых мастакоў "Час. Прастора. Асоба". Такой выставы не было ў Мінску ўжо каля 10 гадоў. Яе правядзенне падтрымалі Саюз мастакоў Беларусі, дзяржаўныя, гарадскія ўлады, маладзёжныя аб'яднанні і прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь.

Адкрыццё выставы нарабіла шмат шуму. Тут выступаў авангардны балет, спявалі і гралі музыкі, мадэльеры паказвалі калекцыі адзення. Самым вялікім падарункам і мастакам, і ўдзельнікам выставы было тое, як публіка ставілася да выставы. Незвычайна шмат людзей было на яе адкрыцці. Многа людзей прыходзіла на яе і ў іншыя дні. Публіка прагнула сенсацыі ад маладога мастацтва. Тым больш, што адбор на выставу быў, па сцвярджэнню яе арганізатараў, толькі па таленту іх аўтара. Ніхто нічыю карціну не здымаў толькі па той прычыне, што на ёй нешта не тое намалявана.

Гэта была сапраўды маладзёжная выстава: сярод аўтараў — студэнты і нават школьнікі. Гэта тыя людзі, якія будуць прадстаўляць беларускае мастацтва ў наступным тысячагоддзі.

Але сенсацыі не адбылося. І члены журы, і гледачы ў адзін голас заяўлялі: выставе нестае смеласці, незвычайнасці. Усіх вельмі здзівіла, што маладзёжная выстава прадставіла прафесійныя

(Заканчэнне на 7-й стар.).

«МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ДОЎГА ЁН НА ФІНСКАЙ ЗЯМЛІ НЕ ПРАБУДЗЕ...»

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

**Дваццаць гадоў назад пісьменнік Васіль Быкаў пакінуў Гродна. Вяртаючыся да таго часу, яго малодшы сын успамінае, што адбылося ўсё даволі плаўна і паступова. Проста аднойчы бацька паехаў у камандзіроўку, сказаўшы, што пакуль пажыве ў Мінску. Уласна, сыны ўжо былі зусім дарослымі: старэйшы сын Сяргей скончыў ваеннае вучылішча, а малодшы, таксама Васіль, вучыўся ў медінстытуце. Хутчэй за ўсё, бацька сам не думаў, як усё складзецца далей. Здарылася ж так, што з Мінска ён дамоў ужо не вярнуўся, а першая жонка пісьменніка і маці двaіх яго сыноў (іншых дзяцей у Быкава няма) праз пяць гадоў пасля таго, як муж пакінуў сям'ю, памерла. Як гаворыць зараз малодшы Васіль Быкаў, разлад паміж бацькамі быў толькі іх праблемай, сыны лічылі, што не маюць права ў яго ўмешвацца, і ні аднаго, ні другога не вінавацілі.**

**Сёння Васіль Васільевіч Быкаў ужо сам бацька двaіх сыноў, урач-неўрапатолаг, загадчык аддзялення абласной дзіцячай бальніцы ў Гродне. Куды б ні ад'язджаў, яго цягне назад у гэты горад. Тут яны жылі ўчатырох з маці, братам і бацькам у вялікім трохпавярховым доме з пячным яшчэ тады ацяпленнем, на вуліцы Алега Кашавога, гэта ў самым цэнтры. Побач, на вуліцы Клары Цэткін, размяшчалася старая рэдакцыя "Гродненской правды", дзе доўгія гады працаваў Васіль Быкаў.**

**Малодшы сын пісьменніка яшчэ ніколі не даваў інтэрв'ю, ва ўсякім разе журналісты не шукалі з ім сустрэчы. Мне здалося, што наша гутарка можа быць цікавай чытачам, пры гэтым я шчыра старалася не задаваць малодшаму Быкаву пытанні, на якія можа адказаць сам пісьменнік. Спачатку я папрасіла майго субяседніка крыху расказаць пра сябе.**

(Заканчэнне на 6-й стар.).

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

## ВУЧОНЫ, ВАНДРОЎНІК, ПАЛІТЫК

**У гэтым годзе геаграфічная навука адзначае слаўную дату — 225-годдзе з дня нараджэння аднаго з заснавальнікаў беларускай геаграфічнай літаратуры, вандроўніка і прыродазнаўцы, мецэната і палітычнага дзеяча Аляксандра Сапегі.**

Па іроніі лёсу Аляксандр Сапега нарадзіўся ў Францыі (3.09. 1773), у сям'і палкоўніка Юзэфа Сапегі з старажытнага магнацкага роду, прадстаўнікі якога ў XV—XVIII стагоддзях займалі вышэйшыя дзяржаўныя і ваенныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім. Ранняе дзяцінства Аляксандр правёў у Страсбургу, куды бацькі пераехалі адразу пасля паражэння Барскай канфедэрацыі (узброеная саюза беларускай шляхты супроць польскага караля Станіслава Панятоўскага і царскай Расіі) і першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе. У пачатку 1877 года Сапегі вярнуліся на радзіму. Аляксандр жыў у маёнтках "Сямяцічы" і "Коцк" пад Брэстам у цёткі Ганны Яблонскай з роду Сапегаў, пад уплывам якой з дзяцінства праявіў цікавасць да прыродазнаўства, карыстаючыся яе вялікай бібліятэкай і мінералагічным музеем, перавезеным пазней у Пецярбург. Атрымаў выдатную хатнюю адукацыю, яго настаўнікамі былі вопытныя педагогі Я. Свядзерскі і Р. Ладаўскі, а пазней француз Н. Ватрэн, які быў раней хатнім настаўнікам у сям'і Браніцкіх; маці, Тэафілія Сапега-Яблонская, выхаваннем сына амаль не займалася. Вялікае значэнне на фарміраванне Сапегі як прыродазнаўцы мела знаёмства з Жакам Жыліберам (1741—1841), прафесарам гісторыі прыродазнаўства Галоўнай шко-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ЮБІЛЕЙ «ФАНТАЗІІ»



**Не адно пакаленне дзяўчынак і хлопчыкаў, што пражываюць у ваенным гарадку Уручча пад Мінскам, пазнаёміліся з азамі харэаграфіі, палюбілі рытміку і танец, наведваючы эстрадна-харэаграфічны калектыў "Фантазія", якому споўнілася 20 гадоў. За гэты час "Фантазія" атрымала званне ўзорнага, стала вядомай на ўсю рэспубліку. А выводзіла "ў свет" свой калектыў яго нязменны кіраўнік Наталля Кузьмянок.**

**У ансамблі займаюцца 40 дзяцей ад 6 да 17 гадоў. У рэпертуары "Фантазіі" — класічныя, народныя, эстрадныя танцы.**

**НА ЗДЫМКУ: танцуюць самыя юныя салісты "Фантазіі".**

**Фота Мікалая ЛЯБЕДЗІКА, БелТА.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

# ПЕРШЫ ВІЗІТ ПРЫМАКОВА



Галоўная мэта сумеснай дзейнасці органаў выканаўчай улады Беларусі і Расіі — пабудова эфектыўнай многаўкладнай эканомікі саюза дзвюх краін. Такі пункт гледжання ў ходзе перагавораў са Старшынёй урада Расійскай Федэрацыі Яўгенам Прымаковым 30 верасня выказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Яўген Прымакоў наведаў Мінск з аднадзённым рабочым візітам. Гэта была яго першая паездка ў якасці кіраўніка расійскага ўрада за межы Расіі.

У ходзе перагавораў адбыўся абмен думкамі па шырокаму колу пытанняў двухбаковых адносінаў, уключаючы паглыбленне інтэграцыі ў рамках Саюза Беларусі і Расіі, пераадоленне цяперашніх фінансава-эканамічных праблем, магчымыя сумесныя дзеянні па выхаду з крызісу. Асаблівая ўвага ўдзялялася неабходнасці надання большай сацыяльнай накіраванасці пераўтварэнням у эканоміцы.

"Праведзеная гутарка пераканала мяне ў тым, што мы па-ранейшаму з'яўляемся аднадумцамі", — сказаў Аляксандр Лукашэнка ў хуткім часе пасля перагавораў з прэм'ер-міністрам Расіі. Ён выказаў упэўненасць, што новы расійскі ўрад на чале з Яўгенам Прымаковым зможа стабілізаваць сітуацыю ў краіне і вырашыць большасць праблем, якія стаяць перад яе народам. "Са свайго боку, я зраблю ўсё магчымае, каб па шляху эканамічных пераўтварэнняў мы ішлі разам", — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Яўген Прымакоў з задавальненнем адзначыў, што размова праходзіла ў "максімальна дзелавой абстаноўцы" і абодва бакі праявілі "максімальна прагматычны падыход" да большасці праблем, якія абмяркоўваліся. На яго думку, дасягнута разуменне таго, што далейшы рух у эканоміцы можа ажыццяўляцца толькі наперад і толькі па шляху рыначных пераўтварэнняў з узмацненнем мераў дзяржаўнага рэгулявання. "У гэтым плане мы карыстаемся поўнай падтрымкай Прэзідэнта Беларусі", — падкрэсліў расійскі прэм'ер.

**На здымку: у час сустрэчы А. ЛУКАШЭНКІ і Я. ПРЫМАКОВА.**

*ВІЗІТ ПАТРЫЯРХА*

# ПРАВАСЛАЎЕ — АСНОВА ДЛЯ АБ'ЯДНАННЯ БРАЦКІХ СЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ

"Я цвёрды прыхільнік умацавання саюза нашых дзяржаў і нашых аднаверных народаў", — заявіў журналістам вечарам 27 верасня ў аэрапорце Віцебска Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II, завяршаючы свой трэці пастырскі візіт у Беларусь. Ён выказаў упэўненасць, што напярэдадні вялікага юбілею хрысціянства "нашы народы сілаю адрываліся ад веры 70 гадоў, усведамляюць неабходнасць вяртання да каштоўнасцяў праваслаўя".

Яго Святейшаства праводзіў у Маскву Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, па запрашэнню якога і знаходзіўся ў рэспубліцы прадстаяцель Рускай праваслаўнай царквы. Кіраўнік дзяржавы заявіў: "Адказнасць за будучыню накладае на кіраўніцтва рэспублікі і царкву пэўныя абавязацельствы па духоўнаму адраджэнню народа. І мы абавязаны падтрымаць намаганні праваслаўя ў гэтым напрамку, бо рэлігія з'яўляецца для грамадства незаменным маральным апірышчам". Аляксандр Лукашэнка асабліва падкрэсліў, што лічыць царкву адзінай сілай, здольнай аб'яднаць брацкія славянскія народы Беларусі, Расіі і Украіны.

На думку Прэзідэнта, "дзяржава пакуль што ў даўгу ў царквы, і ўсё, што было ў яе адабрана ў папярэднія гады, мы паступова вернем, у тым ліку і Сафійскі сабор у Полацку. Гэта будзе справядліва ў адносінах да ўсяго беларускага народа, бо спадчына праваслаўя і прызначана для развіцця і ўмацавання яго духоўнасці".

*УЗНАГАРОДА АД ЦАРКВЫ*

# ОРДЭН КРЫЖА ПРЭЗІДЭНТУ БЕЛАРУСІ

"Знамянальна, што першую ў сваім жыцці ўзнагароду я атрымліваю ад Праваслаўнай царквы", — сказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, прымаючы з рук Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II ордэн Крыжа Прападобнай Ефрасінні Полацкай I ступені.

Гэту ўзнагароду заснаваў Сінод Беларускай праваслаўнай царквы па благаславенню Яго Святейшаства. Цырымонія ўзнагароджання адбылася 27 верасня ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры старажытнага Полацка, дзе Патрыярх Аляксій узначаліў урачыстасці з нагоды свята Узвіжання Крыжа Гасподняга.

Падзякаваўшы за высокую ўзнагароду, кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што гэты візіт Патрыярха Аляксія ў Беларусь прызначаны ўмацаваць дружбу нашых народаў, прадэманстраваць вечнасць духоўных каштоўнасцей у адносінах да палітычных рэалій.

Патрыярх Аляксій падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за гасцінны прыём. Ён пажадаў Аляксандру Лукашэнку "дапамогі Боскай за яго служэнне народу, сіл і мудрасці ў кіраванні дзяржавай".

*БЕЛАРУСЬ—ЛАТВІЯ*

# ПРЫЯРЫТЭТ — ДОБРАСУСЕДСТВА

Эканамічныя ўзаемаадносіны Беларусі і Латвіі развіваюцца даволі дынамічна, і цяпер надышоў час даць імпульс развіццю палітычных кантактаў паміж дзвюма краінамі. Такую думку выказаў 24 верасня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў ходзе перамоў з членамі латвійскай парламенцкай дэлегацыі на чале са старшынёй сейма Латвійскай Рэспублікі Альфрэдам Чэпанісам.

Кіраўнік беларускай дзяржавы заявіў, што, нягледзячы на разыходжанні пазіцый дзвюх краін па асобных пытаннях знешняй палітыкі, Беларусь мае намер і надалей будаваць свае адносіны з Латвіяй на прынцыпах добрасуседства і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. "Падтрыманне добрасуседскіх адносін з усімі краінамі, што мяжуюць з Беларуссю, — прыярытэтны кірунак нашай знешняй палітыкі", — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Прэзідэнт падкрэсліў, што беларускі народ з хваляваннем паставіўся да нядаўніх міжнацыянальных канфліктаў у Латвіі, і папрасіў Альфрэда Чэпаніса ўважліва ставіцца да праблем нацыянальных меншасцей. Па словах Аляксандра Лукашэнкі, Беларусь гатова павялічыць паток тавараў, якія праходзяць праз латвійскія парты, з тым каб забяспечыць занятасць насельніцтва Латвіі і ў канчатковым выніку падняць узровень жыцця латышоў, рускіх і беларусаў, якія пражываюць у гэтай краіне. "Мы разумеем, што ўсе міжнацыянальныя праблемы завязаны на эканоміцы", — сказаў Прэзідэнт.

Альфрэд Чэпаніс, у сваю чаргу, выказаў упэўненасць, што пасля парламенцкіх выбараў, якія адбудуцца ў Латвіі ў бліжэйшыя дні, яго краіна працягне заснаваны на дэмакратычных прынцыпах палітычны дыялог з Беларуссю. У ліку ключавых пытанняў, якія трэба будзе вырашыць кіраўніцтву дзвюх краін, кіраўнік сейма назваў праблему падпісання дагавора аб рэадмісіі.

*ГОСЦЬ З НАРВЕГІІ*



У Белдзяржфілармоніі ў Мінску адбыўся канцэрт аматарскага камернага хору "Модум" з Нарвегіі. Беларускія паклоннікі класічных харавых спеваў змаглі пазнаёміцца з духоўнымі і старадаўнімі песнапеннямі гэтага паўночнага народа, з мелодыямі Эдварда Грыга, з старажытнымі гімнамі Нарвегіі.

Нарвежцы прыехалі ў Мінск упершыню. Іх запрасілі з візітам у адказ самадзейныя калектывы Белдзяржуніверсітэта. Уражанне гасцей аб нашай сталіцы і яе жыхарах, як адзначыў кіраўнік дэлегацыі Харольд Бахе, — "казачнае". А цеплыня, з якой прымалі іх калегі з БДУ і сельскія жыхары Уздзенскага раёна, дзе нарвежцы таксама выступілі з канцэртам, будзе доўга саграваць іх сэрцы ў халодныя зімовыя вечары ў роднай Нарвегіі.

**НА ЗДЫМКУ: на сцэне Белдзяржфілармоніі хор "Модум". Ля раяля мастацкі кіраўнік Оген Норман АЙМЕРСТЭН.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

# НАС ПРОСТА АШУКАЛІ

Вывад ядзернай зброі з Беларусі прадэманстраваў некалькі абставін і галоўнае — прыхільнасць Захаду да палітыкі двайных стандартаў. Беларусь проста ашукалі, не стрымаўшы слова аб кампенсацыі за панесеныя разнастайныя страты. Такі вывад можна зрабіць з заявы А. Лукашэнкі ў час наведвання часцей ПВА.

На думку кіраўніка дзяржавы, Беларусь тады сутыкнулася з неймаверным ціскам з боку Расіі і Захаду, накіраваным на паскарэнне гэтага працэсу. Цяпер ідзе другі этап гэтага прэсінгу і размова вядзецца аб неадкладным знішчэнні стартавых пляцовак, што размешчаны на тэрыторыі рэспублікі. Але рэспубліка мае перад вачыма сумны вопыт сваёй усходняй суседкі — Расіі. На месцы стартавых пляцовак сёння там выпаленая пустыня, у радыусе некалькіх кіламетраў зніклі лясы. "Стартавыя пляцоўкі Беларусі не перашкаджаюць, ядзерную зброю мы там размяшчаць не збіраемся, але і пакідаць пасля сябе нашчадкам выпаленую зямлю не будзем", — заявіў Прэзідэнт.

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

# У РЭЧЫШЧЫ ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЯ

Новы састаў дыпламатычнага корпуса прыступіў да работы ў пасольстве ЗША ў нашай краіне. Пра гэта паведамілі на афіцыйным прыёме, наладжаным з гэтай нагоды амерыканскім пасольствам, Часовы Павераны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Рэндэл Лякок.

На вечар знаёмства былі запрошаны беларускія дыпламаты, ваенныя, лідэры палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Прадстаўляючы сваіх калег, Рэндэл Лякок адзначыў, што новая каманда пасольства працягне працу ў рэчышчы ўзаемаразумення і супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі, нягледзячы ні на якія дыпламатычныя цяжкасці, якія ён назваў часовымі. "Глядзець з надзеяй у будучыню нам дапамагаюць аптымізм і дабрыня беларускага народа, пра што неадназоава заяўляў і пасол ЗША ў Беларусі Дэніел Спекхард, які ўважліва сочыць за падзеямі, што адбываюцца ў Беларусі", — падкрэсліў Рэндэл Лякок.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

БЫЛЫ ПЕРШЫ НАМЕСНІК распушчанага Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, адзін з лідэраў апазіцыйнай Партыі камуністаў беларускай Васіль Новікаў атрымаў дыпламатычнае прызначэнне — ён будзе працаваць саветнікам па палітычных пытаннях Пасольства Рэспублікі Беларусь у Малдове.

ВЫТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ "БелАЗ" адзначыла сваё 50-годдзе. На урачыстым вечары ў Жодзіне былу прысутны прэм'ер-міністр краіны Сяргей Лінг. Ён зачытаў віншаванне калектыву ад Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі і ўручыў шэрагу работнікаў прадпрыемства дзяржаўныя ўзнагароды.

ХОЦІМСК, РАЁННЫ ЦЭНТР Магілёўскай вобласці, што знаходзіцца на мяжы Беларусі і Расіі, адзначыў 600-ю гадавіну з часу свайго заснавання. Разам святкавалася і 55-я гадавіна з дня вызвалення Хоцімска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

ВЫДАВЕЦТВА "БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ" выпусціла чарговы том гісторыка-дакументальнай серыі "Памяць". Кніга-летапіс прысвечана Мядзельскаму раёну.

МЕДАЛЁМ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ ўзнагароджаны ўказам Прэзідэнта Беларусі за вялікі асабісты ўклад у развіццё музычнага мастацтва Міхаіл Казінец, галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча.

ВОПЫТНЫ ЎЗОР МАГУТНАГА ТРАКТАРА створаны на Магілёўскім аўтамабільным заводзе. Прайшлі яго першыя выпрабаванні. Трактар добра цягне васьмікорпусны плуг і іншыя навясныя прычапныя глебаапрацоўчыя прылады.

САЦЫЯЛАГІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ паказалі, што багатымі ў Беларусі лічаць сябе менш за 2 працэнты яе жыхароў. Людзьмі з сярэднім дастаткам назвалі сябе 31,8 працэнта апытаных, беднымі ж адчуваюць сябе 46 працэнтаў жыхароў краіны.

*САНАТОРЫЙ ПАШЫРАЕЦЦА*



У сасновым бары пад Наваполацкам размясціўся санаторый-прафілакторый вытворчага аб'яднання "Нафтан". Нядаўна побач са старымі карпусамі ўступіў у строй дзевяціпавярховы новы корпус на сто месцаў. У ім адна- і двухмесныя нумары з усімі выгодамі, цудоўная сталовая, лячэбныя кабінеты, падводны душ-масаж, кіслародныя ванны.

**НА ЗДЫМКАХ: новы корпус санаторыя-прафілакторыя; салярый карыстаецца асобым попытам у адпачываючых.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТа.**



*У ЛЮСТРЫ ЛІЧБАЎ*

# ЯК ЖЫВЕШ, БЕЛАРУСЬ?

Звычайна на прывітальнае: "Як справы?" мы адказваем: "Дзякуй, добра" ці "Нармальна". Але часам здараецца так, што хто-небудзь, цяжка ўздыхаючы, прастогне: "І не пытайся, горш, мабыць, і не бывае", пасля чаго распачынаецца доўгі пералік хвароб, непрыемнасцей на працы, складанасцей у сям'і. Цікава, а калі б спытацца пра справы ў краіны, у Беларусі? Зразумела, адказ не быў бы адназначны, але, на жаль, пералік праблем, хутчэй за ўсё, быў бы вялікі.

І першым тут можа ісці няўхільнае пагаршэнне здароўя нацыі, пра што сведчыць статыстыка. За апошнія гады ўзровень захворванняў вырас больш чым на 40 працэнтаў, а смяротнасць летась склала 13,4 працэнта на тысячу чалавек. Працягласць жыцця ў краіне — адна з найменшых сярод еўрапейскіх дзяржаў — 63 гады ў мужчын і 74 — у жанчын. З-за гэтай і іншых прычын і ахова здароўя знаходзіцца пад пільнай увагай дзяржавы. Большая частка насельніцтва карыстаецца паслугамі бясплатнах лячэбных устаноў, некаторыя катэгорыі хворых (і немалыя па колькасці) атрымліваюць льготныя ці нават увогуле бясплатныя медыкаменты. А вось час страхавой медыцыны на Беларусі яшчэ не наспеў: пакуль у большасці жыхароў краіны проста не хопіць грошай, каб рабіць неабходныя ўзносы.

Бясплатнае медыцынскае абслугоўванне для Беларусі — надзвычай важны момант сацыяльнай абароны. І ў першую чаргу, у сувязі са шматлікімі праблемамі, што паўстаюць з-за наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Як вядома, у 1986 годзе Беларусь пацярпела значна больш за астатніх: акрамя вялікіх матэрыяльна-эканамічных страт, быў нанесены каласальны ўрон здароўю нацыі. І па сёння шмат беларусаў жывуць на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях. *Напрыклад, у раёнах*, дзе ўтрыманне цэзію перавышае 37 кБк на квадратны метр, яшчэ застаецца прыблізна 1 мільён 800 тысяч чалавек, з якіх амаль ці не паўмільёна дзяцей і падлеткаў да 17 гадоў. Стан спраў пагаршаюць сучасныя эканамічныя цяжкасці, з-за якіх замаруджваецца выкананне або скарачаюцца вельмі важныя раздзелы праграмы па мінімізацыі і пераадоленню наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС да 2000 года: адбылося змяншэнне фінансавання праграмы "Ахова мацярынства і дзяцінства", "Нацыянальнай генетычнай праграмы", не хапае належнай увагі развіццю фармакалагічнай прамысловасці, якая не ўведзена ў лік прыярытэтных галін.

Але было б несправядліва казаць, што нічога не робіцца ўвогуле. Значныя сродкі накіроўваюцца на кантроль за акаляючым наваколлем, чысцінёй прадуктаў харчавання, на сацыяльную абарону насельніцтва, якое пацярпела ад чарнобыльскай трагедыі. Шмат грошай выдаткоўваецца на перасяленне з забруджаных тэрыторый у больш бяспечныя раёны. Такім чынам, Беларусь па-ранейшаму нясе велізарныя страты дзеля пераадолення сапраўднай нацыянальнай бяды, хаця яна напаткала краіну ўжо больш за дзесяць гадоў назад. Аднак, па меркаванні кіраўніцтва дзяржавы, вучоных, разнастайных уласных і замежных экспертаў, з чарнобыльскімі праблемамі мы не здолеем развітацца яшчэ доўга.

Сёлета была моцна ўзрушана беларуская агульнаадукацыйная сістэма: з першага верасня распачата работа па комплекснаму рэфармаванню школы — як сродкаў, так і зместу навучання. Прычыны гэтага, думаецца, зразумелыя: развіццё любога сучаснага грамадства залежыць ад інтэлектуальнага патэнцыялу, які забяспечваецца якаснай адукацыяй і, у першую чаргу, сярэдняй.

Як і ахова здароўя, адукацыя знаходзіць у Беларусі вялікую дзяржаўную ўвагу і падтрымку, дзякуючы чаму сфарміравана досыць моцная база для далейшага развіцця і ўдасканалення.

Лічбы сведчаць: кожны пяты жыхар Беларусі так ці інакш уцягнуты ў сферу адукацыі. Зараз мы маем 4 820 дзяржаўных агульнаадукацыйных школ, 4 511 дзіцячых дашкольных устаноў, 259 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, 42 вышэйшыя навучальныя ўстановы. Акрамя таго, адкрыты і працуюць некалькі дзесяткаў недзяржаўных навучальных устаноў, якія таксама ўключаны ў склад нацыянальнай адукацыйнай сістэмы. У школьныя класы кожны дзень уваходзяць больш за 144 тысячы педагогаў. Аднак нельга не сказаць, што сярод іх шмат пенсіянераў (7 700) і студэнтаў (800), а некаторыя (1 працэнт) маюць толькі сярэднюю адукацыю. І вельмі мала мужчын-педагогаў: меней за 18 працэнтаў, а таму ў беларускай школы, як калісьці і ў савецкай, традыцыйна "жаночы" твар, што, з аднаго боку, здавалася б, і нядрэнна — хто, як не жанчыны, найлепей разумеюць і адчуваюць дзяцей, але на пэўным узроставым этапе, асабліва ў старэйшых класах, мужчынскі аўтарытэт таксама не пашкодзіў бы. Чаму ж мужчыны не ідуць працаваць у школу? Сакрэта тут даўно няма: маленькая заработная плата стрымлівае многіх і многіх з іх. Жанчынам жа часцей прыходзіцца прыстасоўвацца да абставін, вось і трымаюцца яны пакуль у школе. Хаця праблема з камплектаваннем школьных штатаў увесь час ускладняецца і найперш на вёсцы, дзе выкладчыкаў з вышэйшай адукацыяй у два разы менш, чым у горадзе. Асабліва адчуваецца недахоп настаўнікаў замежных моў і фізічнай культуры. Пра маштабнасць дэфіцыту ўжо сведчыць тое, што нават у сталічных школах узнікае праблема з педагогамі названых вышэй профіляў. З-за ўсяго гэтага церпіць агульны ўзровень падрыхтоўкі выпускнікоў школ, які ацэньваецца сёння як даволі нізкі. Да таго ж назіраецца істотная розніца паміж узроўнем ведаў гарадскіх (асабліва з так званых "элітарных" школ — гімназій, ліцэяў, каледжаў) і сельскіх вучняў, што непазбежна ставіць іх у розныя ўмовы пры выбары будучай прафесіі.

Асобную частку беларускай сістэмы адукацыі складаюць дзіцячыя інтэрнаты, дзе выхаванцы — сіроты або дзеці з "цяжкіх" сем'яў — не толькі вучацца, але і жывуць. Зараз у краіне працуе 27 дзіцячых дамоў, 32 агульнаадукацыйныя школы-інтэрнаты, 25 санаторных школ-інтэрнатаў (для хворых дзетак), 83 школы-інтэрнаты для дзяцей, гаворачы навуковай мовай, з асаблівасцямі псіхічнага развіцця (апошняя немалая лічба выклікае асаблівую трывогу) і 22 дзіцячыя дамы сямейнага тыпу. Усяго ва ўстановах падобнага кшталту выхоўваецца 22 з паловай тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак.

Вялікую занепакоенасць на Беларусі выклікае праблема занятасці. Сучаснае беларускае беспрацоўе ў значнай ступені носіць скрыты характар. З улікам усіх абставін колькасць людзей, якія шукаюць работу, ужо перавысіла 600 тысяч чалавек. З'явілася тэндэнцыя павелічэння сярэдняй працягласці тэрміну беспрацоўя. На 1 сакавіка сёлетняга года ўзровень беспрацоўя ў краіне склаў 2,7 працэнта да колькасці працаздольнага насельніцтва. На жаль, сярод беспрацоўных шмат выпускнікоў школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, вышэйшых навучальных устаноў.

Вельмі востра паўстае праблема пажылых людзей. Колькасць пенсіянераў няўхільна расце. Зараз іх ужо два з паловай мільёны чалавек. Практычна ўсім патрабуецца эфектыўная сацыяльная абарона з боку дзяржавы і грамадства. Вельмі многа сярод старых людзей інвалідаў.

Трэба адзначыць, што ў краіне існуе нядрэнная (прынамсі, у параўнанні з іншымі постсавецкімі краінамі) сістэма сацыяльнай абароны насельніцтва, прыняты шэраг адпаведных законаў. Толькі дома органамі сацыяльнай дапамогі абслугоўваецца амаль 80 тысяч чалавек. Непасрэдна работай з састарэлымі займаюцца больш за 23 тысячы спецыяльных сацыяльных работнікаў.

Як можна бачыць з прыведзеных фактаў, стан спраў у краіне сапраўды складаны. Падобна эканоміцы і фінансам, у сацыяльнай сферы поле дзейнасці і для кіраўнікоў, і для грамадскіх арганізацый найшырэйшае.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

*У артыкуле выкарыстаны даныя Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

ГАТОВЫ ДАКАЗАЦЬ СВАЁ ЛІДЭРСТВА

# СВЕТ КЕРАМІКІ — І ПРЫГОЖА, І ПРЫДАТНА

***"Белмастацтвакераміка" ўтворана на базе Радашковіцкага завода мастацкай керамікі. Спецыялізуецца на выпуску нехарчовых тавараў народнага спажывання — вырабаў мастацкай керамікі, набораў мэблі для кухні. Тут вырабляецца прыкладна палавіна ўсёй керамікі краіны. У 1997 годзе "Белмастацтвакераміка" атрымала "Залатога арла" з адпаветным сертыфікатам. Кампанія ўвайшла ў лік лаўрэатаў 1998 года "Залаты Меркурый".***

Якую толькі кераміку ні выпускаюць на гэтым прадпрыемстве! Яго вырабы прыкметна адрозніваюцца па дызайну і якасці ад усяго, што робіцца калегамі па галіне. Яны спалучаюць элементы навізны з народнымі традыцыямі беларускай керамікі. Высокім попытам у пакупнікоў карыстаюцца не толькі гаспадарчыя вырабы — гаршкі для кветак і для прыгатавання ежы, дакладней, тушэння, ёмістасці для саленняў, але і вырабы адначасова дэкаратыўнага і утылітарнага прызначэння — цукерачніцы, наборы для малака, напіткаў, чайныя і кафейныя сервізы. Аматараў прыкладнога мастацтва нязменна прыцягвае непаўторнае аблічча і чыста дэкаратыўных керамічных вырабаў. Цэны ж на прадукцыю прадпрыемства "Белмастацтвакераміка" на 20—25 працэнтаў ніжэйшыя, чым на аналагічныя тавары, выпускаемыя ў Беларусі.

З сярэдзіны 70-х прадпрыемства стала спецыялізавацца толькі на вырабе керамікі і мэблі. А ў 90-х мэблевая вытворчасць сканцэнтравалася на распрацоўцы і вырабе кухонных набораў, што ўжо заваявалі прызнанне пакупнікоў, у тым ліку далёка за межамі нашай краіны, дзякуючы мастацкаму набору "Вязынка", у якім выкарыстана натуральнае дрэва.

Так што ў цяжкія для збыту керамічных вырабаў часы стабільна працаваць заводу дазваляла мэблевая вытворчасць і наадварот. Цяпер кераміка самага рознага, у тым ліку утылітарнага, прызначэння займае 60 працэнтаў у агульным аб'ёме вытворчасці, астатнія 40 працэнтаў — мэбля.

"Белмастацтвакераміка" плённа супрацоўнічае практычна з усімі лепшымі беларускімі лікёра-гарэлачнымі і з Гомельскім вінаробчым заводамі, а таксама з Расіяй. Разлітыя ў прыгожую тару з Радашковічаў медавухі Каломенскага пчалярскага камбіната ўжо набылі сімвалічны статус узорна-паказальнага пітва здаровага чалавека.

Калектыў прадпрыемства актыўна займаецца распрацоўкай і пастаноўкай на вытворчасць новых вырабаў мастацкай керамікі, што дазваляе абнаўляць асартымент на 20—25 працэнтаў у год. Гэтаму садзейнічаюць і новыя тэхналогіі, набытыя заводам, некаторыя з іх унікальныя для галіны ў цэлым. Так, "Белмастацтвакераміка" першай сярод профільных прадпрыемстваў авалодала тэхналогіяй вакуумнага напылення, што надае яе вырабам прыгожы залацісты, серабрысты, вясёлкавы і іншы бліскучы адліў. Ды і тыя ж гліняныя бутэлькі самых разнастайных форм, з разьбой па гліне для "закрутак" з захаваннем іх функцыянальных якасцей — таксама ноўхаў Радашковіцкага завода. Славутыя рыжскія бальзамы, напрыклад, закаркоўваюцца сургучом. Хаця менавіта рыжане былі піянерамі вырабу глінянай тары для любімых народам напіткаў, яны так і не змаглі дабіцца якаснай тэхналогіі герметычнай "закруткі" на наразной гліне.

У перабудовачны перыяд прадпрыемства не толькі не знізіла аб'ёмы вытворчасці, наадварот, іх штогадовы прырост склаў каля 80 працэнтаў у супастаўных цэнах, чым пахваліцца могуць нямногія. Не было і скарачэнняў работнікаў. Пастаянна абнаўляецца асартымент, без чаго, як гаворыць генеральны дырэктар В. Кладаў, у прадпрыемства "нічога б не атрымалася".

Актыўнасць маркетолагаў накіравана была перш за ўсё на Расію, што і сёння, як пяць гадоў назад, справа вельмі рызыкоўная з-за неабароненасці на даным рынку беларускіх таваравытворцаў. Расія, гавораць на заводзе, можа "праглынуць" любыя аб'ёмы як керамікі, так і кухонных набораў, але вось разлічваць на своечасовае атрыманне аплаты не даводзіцца. Па-ранейшаму няма механізма спагнання плацяжоў з расійскіх даўжнікоў. Але рызыка дазволіла атрымаць неабходную сыравіну, лакі, маёліку, мазут і г. д. і — працаваць. Цяпер у завода ёсць свае дылеры ў Маскве, Новакузнецку, Растове, Ніжнім Ноўгарадзе, Самары. Аб'ём экспарту "Белмастацтвакерамікі" ў Расію складае 600 тысяч долараў ЗША ў год, станоўчае сальда — 100—150 тысяч долараў.

Ёсць дагаворанасці з шэрагам чэшскіх заводаў аб набыцці ў іх новых відаў пакрыццяў і фарбавальнікаў, прычым значна больш танных, чым у Расіі. "Мы ж спрабуем і неяк засцерагчыся, падстрахавацць сябе ад усялякіх непрадбачаных сітуацый у Расіі, якая сёння жорстка дыктуе нам і цану, і якасць свайго тавару. А мы павінны згаджацца, іншага варыянта пакуль няма. Мы хочам мець альтэрнатыву, каб была магчымасць манеўра", сцвярджае В. Кладаў.

Калі гаварыць аб перспектывах — яны добрыя, запэўнівае В. Кладаў. "Было б усё нармальна "ўверсе", а ў нас тут усё будзе нармальна". Калектыў прадпрыемства даволі малады, каля 60 працэнтаў — жанчыны, тэхналогіі — сучасныя. Стратэгія прадпрыемства — жорсткае планаванне і недапушчальнасць праядання заробленых сродкаў.

Пад бокам наглядны прыклад — Радашковіцкі керамічны завод, на які некалькі гадоў назад за больш высокай зарплатай пацягнуліся работнікі "Белмастацтвакерамікі". Пажыўшы некаторы час за кошт крэдытаў добра, керамічны завод цяпер фактычна з'яўляецца банкрутам. І былыя работнікі паспяшаліся назад. "Заработная плата павінна быць заробленай, — гаворыць Кладаў. — Мы ўвялі рэжым эканоміі і выбралі шлях жорсткай адпаведнасці павышэння заработнай платы росту вытворчасці. Сёння ў нас удзельная вага зарплаты ў аб'ёме вытворчасці — 20 працэнтаў. І калі ў нас аб'ёмы вытворчасці выраслі на 50 працэнтаў, то і зарплата вырасла на столькі ж". На даны момант сярэдняя заработная плата па заводу — 4,5 мільёна рублёў, і за апошнія гады не было выпадку з затрымкай яе выплаты.

У 1998 годзе ўжо зрасходавана каля 3 мільярдаў рублёў на тэхнічнае пераўзбраенне. Набыты новы МАЗ пастаянна ў рэйсах, абслугоўваючы расійскіх дылераў, і павінен акупіцца на працягу года. Набываюцца два новыя нямецкія вакуумпрэсы, зроблены капітальны рамонт таксама нямецкай камернай печы, што павысіць якасць вырабаў і знізіць затраты на электраэнергію. Ёсць намер купіць яшчэ дзве аналагічныя печы.

Заводская кацельня ацяпляе палавіну гарадскога пасёлка Радашковічы. Пасля леташняга ўрагану завадчане былі заняты разборкай паваленага лесу, які ў выніку знайшоў прымяненне толькі на прадпрыемстве "Белмастацтвакераміка". Гэтымі дровамі паліцца спецыяльна выраблены горан для абпальвання керамікі па старадаўняму метаду, а таксама ацяпляецца жылы пасёлак, за кошт чаго эканоміцца мазут.

Асобую ўвагу на прадпрыемстве ўдзяляюць сацыяльнай інфраструктуры. На балансе знаходзіцца 14 832 квадратныя метры жылля, дзіцячы сад-яслі на 140 месцаў, медпункт. Да паслуг работнікаў прадпрыемства і жыхароў пасёлка — прадуктовы і прамтаварны магазіны, у якіх шырока выкарыстоўваецца вэксальная сістэма. Кожны работнік прадпрыемства за кошт сваёй заработнай платы можа набыць тавары, эканомячы час і нервы. Прычым гандлёвая нацэнка на тавары, што рэалізуюцца праз магазіны прадпрыемства, значна ніжэйшая, чым у іншых магазінах пасёлка. "Наша задача, — гаворыць В. Кладаў, — каб наш фонд заработнай платы, гэтыя тры з лішкам мільярды, заставаўся на заводзе, а чалавеку прадастаўлялася ўсё неабходнае". Для работнікаў прадпрыемства ўстаноўлены льготы на паслугі пральні самаабслугоўвання, выкананне заказаў на выраб сталярных рэчаў, паслугі аўтатранспарту і г. д.

**Сяргей ВАСІЛЬЦОЎ.**
("Белорусская газета").

## *У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

**7 верасня 1998 года ў таварыстве "Радзіма" адбылася сустрэча з суайчыннікамі Мікалаем і Марыяй Якімавымі, якія жывуць у Аўстраліі. Размова з кіраўніцтвам і супрацоўнікамі таварыства насіла шчыры, сяброўскі характар. Госці расказалі пра жыццё нашых суайчыннікаў у Аўстраліі, падзяліліся сваімі думкамі аб умацаванні сяброўскіх кантактаў з таварыствам "Радзіма". Былі абмеркаваны накірункі далейшага супрацоўніцтва.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы ў таварыстве "Радзіма".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## НАМ ПІШУЦЬ

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

Даўно Вільня не перажывала такога масавага і радаснага свята. Адразу трэба сказаць, што песенны фестываль "Вільня-98" быў на рэдкасць удалым. Тым больш пацяшае, што напярэдадні адбыўся раённы фестываль песні ў Салечніках (Шальчынінкай) пры масавым удзеле мастацкіх, вакальна-музычных калектываў...

На віленскі фестываль прыбыло 15 ансамбляў: з Друскенік, Вісагінаса, Салечнікаў, Вільні, Баранавіч, Пастаў, нават з Масквы. Прычым трэба адзначыць, што жадаючых прыняць удзел у святе было значна больш. Аднак мастацкая місія адабрала толькі найлепшых, бо не магла выйсці за рамкі сваіх фондаў (аплата дарогі, начлегу, харчавання).

Аднак усё па парадку. У адной з найбольшых залаў сталіцы — *Палаца прафсаюзаў* урачыстасць распачалася роўна ў вызначаны час. На шырокім задніку эстрады красаваліся вялізны каляровы сымбаль урачыстасці: "Свята беларускай песні — Вільня-98" і каляровыя кветкі. Вялікая зала запоўнена гледачамі.

Пад шум масавых воплескаў выходзіць на сцэну першы пасля ўстанаўлення незалежнасці Летувы — беларускі хор "Сябрына". Воплескі заслужаныя: харысткі, апранутыя ў прыгожыя нацыянальныя касцюмы, займаюць усю шырыню сцэны. У цэнтры дырыжор — Валянціна Кавальчук з акардэонам.

Старшыня рады Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве, заслужаны грамадскі дзеяч Леанід Мурашка на літоўскай і беларускай мовах вітае прысутных са святам роднай песні, інфармуе аб многіх прысланых тэлеграмах з пажаданнямі поспеху і віншаваннямі.

Буру воплескаў выклікала пасланне Прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі В. Адамкуса, які ў цёплых і шчырых словах пажадаў беларускай дыяспары паспяховага адраджэння ў дружнай сям'і нацыянальнасцяў свабоднай Літвы. (Многія з прысутных падтрымалі прапанову — выслаць паважанаму Прэзідэнту адпаведны зварот і запэўніць яго ва ўдзячнасці і падтрымцы з нашага боку).

У сувязі з вялікай колькасцю ансамбляў, салістаў, дуэтаў і больш трыццаці нумароў праграмы час кожнаму быў адведзены кароткі. "Сябрына" выканала дзве народныя песні: "Зялёнае жыта" і "Грачанікі". Папулярны ансамбль пад кіраўніцтвам Валянціны Кавальчук, безумоўна, павысіў свой мастацкі ўзровень (дынаміку, гарманізацыю), і гэтым трэба толькі цешыцца. Аднак... Склад хору амаль што не мяняецца: не відаць неабходнага "амаладжэння", хоць аб'ектыўныя ўмовы існуюць. Побач працуе сярэдняя школа, вучацца беларускія студэнты ў педагагічным універсітэце. І варта было б падумаць аб супрацоўніцтве ў гэтым напрамку.

Прыемнай неспадзяванкай было выступленне клубнага хору "Гярвечай". Пад кіраўніцтвам сп. Паперніцкага невялічкі хор (15-асабовы) паказаў нечакана высокі мастацкі ўзровень. Беззаганна былі выкананы народныя песні "Ой, даўно ў матулі" і "Мая матуля на мяне бядуе", а таксама беларускія народныя танцы "Крыжачок" і "Лявоніха" на цымбалах і акардэоне. Аматары-артысты былі ўзнагароджаны доўгімі і гучнымі апладысментамі. Але гэта быў толькі пачатак бурнага канцэртнага настрою.

Выдатна паказала свае таленты "Юнацтва" з Баранавіч. Фантастычная мяцеліца вогненна-сонечнай буры яркіх колераў і нястрымная дынаміка маладых выканаўцаў поўнасцю захапіла ўсіх гледачоў. Харэаграфічнае майстэрства юнакоў дасягнула віртуознасці і ўзбурыла эмоцыі да зеніту.

Прывітальная "Лявоніха" (мастацкі кіраўнік Ігар Чарняўскі) сваім майстэрствам і дынамічнасцю проста ашаламіла залу. З баранавіцкім ансамблем цяжка было канкурыраваць Галіне Баркоўскай з Салечнікаў. Але яе вакальны дуэт усё ж паказаў сябе дастойна ў песні "Каля рэчкі, каля броду".

Прыйшла чарга паказаць сваё майстэрства творчаму ансамблю беларускага цэнтра "Крок" з Вісагінаса. Пад мастацкім кіраўніцтвам Людмілы Віткоўскай былі выкананы народныя песні "Ой бачыў я, бачыў" і "Жыта ў полі" а таксама "Гаю мой, ня кліч", на словы У. Пецюкевіча і музыку Д. Даўгалёва.

І зноў узлятае настрой пасля захапляючага выступлення баранавіцкага "Юнацтва". Дзве скрыпкі, два баяны ды іншыя інструменты ствараюць дасканалы гукавы фон для ўдалага ансамбля, якому адрасуецца бура несціханых воплескаў кожнага харэаграфічна-танцавальнага і вакальнага нумара.

Належную ацэнку эмацыянальна настроенай публікі атрымлівае трыо: дудка, скрыпка і баян. Асабліва ўзнёслае ўражанне стварыла сваім цудоўным сапрана спявачка Наталля Краўтэр з Масквы. Тэмбр яе голасу і унікальнае выкананне пры акампанеменце дасканалай піяністкі Галіны Знайдзілоўскай дапоўнілі і ўзбагацілі праграму свята.

Дастойным канкурэнтам чароўнай Наталлі быў саліст Літоўскага тэатра оперы і балета Яўген Васілеўскі. Яго магутны барытон з аксамітнай мяккасцю Данчыка і цеплынёй Барткевіча зачараваў, спявак непараўнальна выканаў песні "Верасы" (муз. І. Лучанка, сл. М. Танка) і "Вы шуміце, бярозы" (муз. Э. Ханка, сл. Н. Гілевіча). Акампаніравала яму папулярная ў свеце музыкі Жанета Нарэйкене. Гэтае выступленне, здавалася, узняло эмоцыі да самай мяжы магчымага. Аўтар не памятае такога хвалявання і энтузіязму музыкальнай публікі. Здавалася, што ніхто не здольны зраўняцца з гэтым неабсяжным мастацтвам. Аднак прысутных чакала яшчэ адна незвычайная эмоцыя: Паставы...

Нязнаны нам і нерэкламаваны пастаўскі ансамбль "Паазер'е" літаральна ашаламіў эмацыянальнай глыбінёй інтэрпрэтацыі народнага мастацтва і народнай душы. Хочучы або не, прыходзіцца высока ацаніць талент кіраўніка гэтага музычна-харавога згуртавання Анатоля Собаля. Выкананыя ім песні, асабліва "Беларус", выклікалі адметны настрой і пакінулі ўражанне, якога словамі не апішаш... Былі тут і слёзы, і радасць, і захапленне, і кветкі, і "малайцы!", і "брава!"...

Невялікі 12-асабовы ансамбль удала дапаўнялі дзве скрыпкі, трое цымбалаў і бубен. Песня "Ой, братка беларус" не забудзецца намі ніколі...

Заслугоўвае ўвагі і вісагінскі хор (іх было два) "Шчара" пад кіраўніцтвам таленавітай скрыпачкі-капельмайстра Святланы Антанян. Нядаўна "змантаваны" калектыў паказаў небывала хуткі мастацкі рост. Гарманізацыя і дынаміка народных песень "Ой у лузе пры даліне", "Звіняць-звіняць званочкі" і "Гуляць дык гуляць!" можа служыць ужо сёння добрым прыкладам для маладых (а часам і старэйшых) ансамбляў.

Добрыя словы трэба скіраваць кіраўнікам вісагінскіх арганізацый — Віктару Марчуку і Алегу Давідзюку, якія, разумеючы значэнне і вартасць таленту, дапамаглі Святлане ў яе плённай і шчырай працы.

Некалькі разоў з новымі і новымі песнямі і танцамі выступіў выдатны баранавіцкі ансамбль. Безліч кветак, букетаў і іншых падарункаў ахвяравана ўдзельнікам незабыўнага свята.

Пасол Рэспублікі Беларусь у заключэнне выказаў ад свайго імя і ад імя беларусаў Летувы шчырую падзяку Прэзідэнту Літоўскай дзяржавы Валдасу Адамкусу за яго спагаднасць і падтрымку мастацкаму кіраўніку свята, папулярнаму артысту Леаніду Мурашку, кіраўнікам і ўдзельнікам беларускіх згуртаванняў і ўсім удзельнікам фестывалю за іх вялікі ўклад, а таксама спонсарам за іх так патрэбную ахвярнасць.

На развітанне паплылі прывычныя і так мілыя гукі роднай песні "Люблю наш край" як гімна душы тысяч людзей.

**Аляксей ЗІНКЕВІЧ.**

г. Вільня.



**НА ЗДЫМКУ: канцэрт пачаўся з выступлення віленскай "Сябрыны". Гасцей і ўдзельнікаў фестывалю вітаў Леанід МУРАШКА.**

## ДВАЦЦАЦЬ ВОСЕМ ГАДОЎ У ДАРОЗЕ

# ПАЛОМНІК

Паломнік з Сан-Францыска, грамадзянін ЗША Джордж Фларыян Уолтэр, 1941 года нараджэння, вось ужо дваццаць восем гадоў ідзе пешшу ў Іерусалім, куды мяркуе дабрацца ў 2000 годзе. За гэты час ён прайшоў 35 краін, а ў канцы жніўня г. г. быў у Вільні, адкуль па маршруту Вільня—Ліда—Навагрудак—Пінск накіроўваўся ў Львоў, дзе будзе зімаваць, уладкаваўшыся на дабрачынную працу ў дом састарэлых ці дзіцячы прытулак, а вясной зноў у дарогу да святых мясцін.

Паломнік апрануты ў джынсавы халат, які ўвесь у латках, на нагах сандалі, зробленыя з гумы ад кола аўтакара, у руках Біблія і кіёк у выглядзе крыжа. За дзень пераадольвае 30 кіламетраў, харчуецца



тым, што даюць добрыя людзі, а прытулак знаходзіць таксама ў людзей, грамадскіх і рэлігійных арганізацыях.

У Вільні яго апякалі сябры ТБМ імя Ф. Скарыны віленскага краю, дапамаглі аформіць уваходную бясплатную візу ў Рэспубліку Беларусь, за што вельмі ўдзячны консулу пасольства Рэспублікі Беларусь сп. Бобаву, а таксама загадчыцы польскага дзіцячага садзіка ў Каралінішках сп. Вайсневіч Люцыі за харчаванне і начлег.

Паломнік Дж. Ф. Уолтэр на розныя пытанні людзей дае грунтоўныя адказы, і многія здзіўляюцца яго арыгінальнасці, яго філасофіі, яго мудрасці, на што ён дадае, што гэтыя веды ён атрымоўвае "зверху", ад Усявышняга.

У добры шлях, з Богам, паломнік Джордж Уолтэр!

**Юры ГІЛЬ,**
**старшыня ТБМ**
**імя Ф. Скарыны**
**віленскага краю,**
**дэпутат Віленскага раёна.**

**НА ЗДЫМКУ: паломнік Джордж Фларынян УОЛТЭР ля Вострай Брамы ў Вільні ў жніўні 1998 года.**

# ПАМЯЦІ БРАТА

***21 верасня памёр, а 22-га быў пахаваны на бліжэйшых ад Мінска татарскіх могілках у Смілавічах Якуб Адамавіч Якубоўскі, галоўны рэдактар квартальніка татараў на Беларусі "Байрам". Уся яго дзейнасць на карысць татарскага адраджэння была неадрыўная ад справы беларускага адраджэння.***

Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь з вялікім сумам і жалем даводзяць да ведама нашых татараў-мусульман вестку аб смерці члена праўлення згуртавання "Аль-Кітаб", галоўнага рэдактара квартальніка "Байрам" Якуба Адамавіча Якубоўскага (Алейгі салям! Няхай Алах Усявышні будзе міласцівы да яго!).

Не стала выдатнага Чалавека з вялікай літары. Якуб Якубоўскі нарадзіўся 20 красавіка 1932 года ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і паважаных і працавітых людзей. Яго бацькам быў Адам Мустафавіч, а маці — Раіса Хасенеўна Якубоўскія.

У 1950 годзе, пасля заканчэння сярэдняй школы ў г. п. Відзы Браслаўскага раёна, Якуб Адамавіч пачаў працаваць настаўнікам пачатковай школы ў гэтым жа раёне. У 1955 годзе ён скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут па спецыяльнасці гісторыя. Крыху пазней ён павысіў сваю гістарычную адукацыю, скончыўшы гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. У 1962 годзе атрымаў вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці геаграфія ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, а ў 1989-м — па спецыяльнасці беларуская мова і літаратура ў Мінскім педагагічным інстытуце. Працаваў у Інстытуце глебазнаўства (1962—1967) і ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі загадчыкам рэдакцыі геаграфіі і геалогіі. Пры яго ўдзеле былі створаны наступныя энцыклапедычныя выданні: "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" (у 12-ці тамах), "Энцыклапедыя прыроды Беларусі" (у 5-ці тамах), "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя" (у 5-ці тамах, на беларускай і рускай мовах), аднатомнік "Прырода Беларусі", энцыклапедычныя даведнікі пра абласныя цэнтры, "Блакітная кніга Беларусі" ды іншыя. Шматгадовая праца Я. Якубоўскага адзначана трыма граматамі Вярхоўнага Савета БССР. За выданне 12-томнай "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" ў 1976 годзе яму было прысвоена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Чалавек энцыклапедычных ведаў — лінгвіст, гісторык, культуролаг, географ, біёлаг, Я. Якубоўскі напрыканцы 80-х гадоў стаяў ля вытокаў беларускага і татарскага адраджэння. Ён добра разумеў, што без адраджэння беларусаў немагчыма вырашаць і праблемы беларускіх татараў. Якуб Якубоўскі ў 1991 годзе арганізаваў выпуск на беларускай мове першага друкаванага выдання беларускіх татараў — квартальнік "Байрам" і быў галоўным рэдактарам яго першых 27 нумароў, На працягу апошніх гадоў Якуб Адамавіч вёў тытанічную працу па стварэнню унікальнай энцыклапедыі "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", склаў рэестр на 30 000 энцыклапедычных артыкулаў: прысвечаных разнастайным аспектам жыцця татараў-мусульман сярод прадстаўнікоў іншых культур і канфесій. Ім жа напісана і падрыхтавана да выдання каля 1 000 артыкулаў для будучай энцыклапедыі.

Цяжка пісаць пра Якуба Адамавіча ў мінулым часе. Ён быў душой татарскай супольнасці, яскравым прыкладам служэння свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне — Беларусі. Сталі хрэстаматыйнымі словы Я. Якубоўскага: "Нас, татараў, разам з беларусамі 10 мільёнаў". Ён быў аўтарам звароту да супляменнікаў, усіх грамадзян Беларусі (май 1995 года), які падпісалі лепшыя прадстаўнікі татарскай інтэлігенцыі. Ён спадзяваўся, што на рэферэндуме татары Беларусі як старажылы, так і пазнейшыя пасяленцы выкажуцца за беларускую дзяржаўную мову без агаворак, бо далікатнасць, павага і шчырасць да народа, сярод якога жывуць татары, дзе нарадзіліся нашы дзеці, дзе вечным сном спачываюць нашы продкі, не даруюць нам здраду сваёй Бацькаўшчыне.

Якуб Якубоўскі любіў гаварыць: "Трэба працаваць так, быццам апошні дзець працуеш. А жыць так, быццам будзеш жыць вечна". Ён прымаў удзел ва ўсіх мерапрыемствах, што праводзіліся беларускім згуртаваннем татараў-мусульман "Аль-Кітаб" разам з Мусульманскім рэлігійным аб'яднаннем у Рэспубліцы Беларусь: вечарынах, навуковых канферэнцыях, урачыстасцях з нагоды татарскіх і мусульманскіх святаў. Ён з'яўляецца стваральнікам гімна татараў-мусульман Беларусі. У гэтым творы такія радкі: "Йшлі гады, і нашчадкі татар-мусульман беларускую мову з павагай прыдбалі. Але веру ў Алаха — свяшчэнны Імам, мы да Суднага дня захаваем. Ля іляха іля Алаху. Мухамед рэсюлюллах". Ён свята верыў у Алаха, пракраў, анёлаў, у кнігі, якія былі напісаны Усявышнім Алахам праз сваіх продкаў людзям, у Судны дзень, у прадвызначэнне Боскае. Якуб Адамавіч пачаў перакладаць святую кнігу мусульман — Кур'ан на беларускую мову. Ён быў сапраўдным мусульманінам, пакінуў пасля сябе добрыя справы і выхаваных дзяцей. Дай, Алах, яму светлы Рай!

**А. Александровіч, І. Александровіч, Р. Александровіч, І. Багданаў, І. Варановіч, І. Канапацкі, М. Канапацкі, А. Крыніцкі, А.-Б. Шабановіч, А. Усманава.**

*Наступны нумар квартальніка "Байрам" будзе прысвечаны светлай памяці яго галоўнага рэдактара. Гэта адзін са знакаў вялікай удзячнасці за яго неацэнную працу. Многія з вас таксама былі чытачамі "Байрама", некаторыя мелі шчасце друкавацца ў ім. Просім тых, хто хоча надрукаваць у нашым часопісе слова пра Якуба Адамавіча Якубоўскага, дасылаць свае матэрыялы на адрас:* ***Канапацкі Ібрагім Барысавіч, 220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі, 51—312.***



**Калі будзе здадзены ў эксплуатацыю новы дом у цэнтры Слаўгарада, навасёламі стануць 100 сем'яў. Паскорыць ход работ слаўгарадцам памагаюць будаўнікі з Полацка.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ВУЧОНЫ, ВАНДРОЎНІК, ПАЛІТЫК



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

лы ў Вільні і заснавальнікам першай у Беларусі медыцынскай акадэміі ў Гродне, з якім усё жыццё падтрымліваў дружбу і навуковыя сувязі.

У 1792 годзе Сапега пазнаёміўся са Станіславам Сташыцам (1755—1826), заснавальнікам Горнай школы ў Кельцах, на базе якой пазней была заснавана вядомая Кракаўская горная акадэмія. Абодва цікавіліся геалогіяй усходніх раёнаў Польшчы. Праз два гады яны накіроўваюцца ў Вену для ўдасканалення ведаў у галіне геалагічных навук, наведваюць Альпы, Апенінскі паўвостраў, Францыю. У 1797—1802 гадах Сапега самастойна даследуе геалогію Усходняй Польшчы, Валыні і Літвы, галоўным чынам, яго цікавіць мінералогія крышталічных парод. У выніку гэтых даследаванняў выдаў дзве кнігі па мінералогіі. У 1800 годзе па рэкамендацыі Сташыца Сапега становіцца членам таварыства "сяброў навукі" ў Варшаве і займаецца стандартызацыяй мер і вагаў у Польшчы, Беларусі і Літве па ўзору метрычнай сістэмы Заходняй Еўропы. Публікуе на польскай і французскай мовах сваю работу "Параўнальная табліца новых французскіх і літоўскіх (польскіх) мер і вагі". Асобнымі выданнямі для масавага карыстання выходзяць яго табліцы пераводу мер і вагі, распаўсюджаных у Польшчы, Беларусі і Літве, у метрычныя, прынятыя ў Еўропе. Публікуе ў польскіх часопісах шэраг артыкулаў па геалогіі, геаграфіі і этнаграфіі, выдае на польскай мове падручнік па неарганічнай хіміі.

У пачатку XIX стагоддзя Сапега ажыццяўляе працяглае падарожжа па Балканах уздоўж Адрыятычнага мора: наведаў Далмацыю (Харватыю), Боснію, Герцагавіну, Чарнагорыю і Албанію, якія знаходзіліся тады пад аўстрыйскім і турэцкім панаваннем, што было для яго небяспечна. Перасячы мяжу Італіі з Далмацыяй, далучанай нядаўна да Аўстрыі (1797), было не вельмі проста. Сапегу давялося звярнуцца па дапамогу да рускага консула ў Трыесце Мялісіна, і той суправаджаў падарожніка на судне да вострава Крк. А ў Дуброўніку яму давялося шукаць абароны ў рускага консула Фантона. У 1804 годзе на шляху з Італіі (Турын) у Францыю (Ліён) праз перавал Мон-Сені дапытлівы натураліст падняўся на найвышэйшыя вяршыні Альп і паведаміў аб гэтым узыходжанні ў ліпені таго ж года на пасяджэнні Ліёнскай акадэміі навук, літаратуры і мастацтваў пад старшынствам свайго сябра Ж. Жылібера (рукапіс даклада захоўваецца ў архіве акадэміі). На Балканах Сапега наведаў практычна ўсе унікальныя аб'екты прыроды, праявіўшы цікавасць да рымскіх і славянскіх старажытнасцяў, да эканомікі і прамысловасці, фабрык і руднікоў. У Істрыі наведаў адзіныя ў Еўропе таго часу ртутныя руднікі, з рызыкай для жыцця спускаўся ў падземныя штольні. Наведаў мармуровыя каменяломні, дзе венецыянцы здабывалі мармур для абліцоўвання сваіх знакамітых каналаў. Даследаваў руіны Скардоны — старажытнай сталіцы рымскай правінцыі Лібурніі. Вывучаў геалогію акваторыі Адрыятыкі, пераплываючы неаднаразова ў Італію і Грэцыю. Уражанні пра сваё падарожжа апублікаваў (Парыж, 1808) у выглядзе пісем да Жылібера ў Ліён. Гэта кніга з'яўляецца сапраўдным помнікам геаграфічнай літаратуры пачатку XIX стагоддзя.

Вярнуўся Сапега на радзіму (1806) з вялікімі калекцыямі праз Парыж, дзе стаў прыхільнікам Напалеона. У маі гэтага ж года паведаміў таварыству "сяброў навукі" аб заканчэнні свайго падарожжа, а ў снежні зрабіў у Варшаве даклад. У студзені 1807 года ўдзельнічаў у арганізацыі прыезду Напалеона ў Варшаву, падрыхтаваўшы шматлікія мемарыялы аб стане краіны (па пытаннях палітыкі, культуры, эканомікі) і неўзабаве стаў блізкім да акружэння імператара — быў уключаны ў ганаровую гвардыю Напалеона, узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна і вышэйшым ордэнам Францыі "Залаты арол Ганаровага легіёна". У час знаходжання Напалеона ў Варшаве прачытаў даклад аб Балканах "Ад Афін да Ліёна", які ў галіне рэгіянальнай геалогіі стаў наватарскім. Ахвяраваўшы бібліятэцы "сяброў навукі" 5 тысяч кніг, Сапега праводзіць зіму 1807—1808 гадоў у Парыжы пры двары Напалеона, 28 верасня 1808 года ўдзельнічае ў яго Вялікай свіце пры сустрэчы з рускім імператарам Аляксандрам І у Эрфурце. Тут быў абраны ганаровым членам Акадэміі навук, быў таксама абраны членам навуковых таварыстваў у Турыне і Ліёне.

У 1809—1811 гадах Сапега праводзіць геалагічныя даследаванні ў Польшчы, падарожнічае па Галіцыі, рыхтуе да выдання свае дзённікі "Падарожжа па славянскаму краю". Першая частка кнігі з апісаннем шляху ад Трыеста да Дуброўніка (1802—1803) была выдадзена ў Вроцлаве ў 1811 годзе і перавыдадзена ў 1856-м. Другая частка кнігі (1803—1804) выйшла толькі ў 1983 годзе. Кніга падрабязна асвятляе пытанні геалогіі і геаграфіі, археалогіі і этнаграфіі, апісвае помнікі культуры. Сам факт апублікавання сваіх дзённікаў Сапега тлумачыў так: "Для падарожніка злачынна не заўважаць звычаяў народа і не апісваць іх".

Сапега ідэалізуе славянскі народ, уся кніга прасякнута духам сапраўднага славянафіла. У сувязі з гэтым цікавы наступны факт. У час падарожжа Сапегі па Балканах яго высочвалі аўстрыйскія агенты. Яны лічылі, што гэта "паездка" ажыццяўляецца па палітычных меркаваннях, і спрабавалі высветліць, на каго "працуе" беларускі магнат — на Расію ці Францыю. Французская паліцыя падазравала Сапегу ў сакрэтнай службе на карысць Расіі, а Талейран у перапісцы з Напалеонам ставіў у віну Сапегу яго непрыязнасць да французаў. Польскія даследчыкі на гэты конт адназначнага адказу не даюць. Разам з тым, кнігі і навуковыя артыкулы Сапегі сведчаць аб яго патрыятызме і прыхільнасці да ўсіх славян як народаў-пабрацімаў. Ён падкрэсліваў блізкасць славянскіх народаў па мове і звычаях, а паўднёвых славян называў самым прыгожым, высакародным і ахайным народам Еўропы, адзначаў іх дружалюбнасць да адзінакроўнай Расіі — адзінай у той час славянскай дзяржавы.

Восенню 1812 года ў сутыкненні з дзіком на паляванні ў Белавежскай пушчы Аляксандр Сапега атрымаў сур'ёзную траўму, развілася гангрэна, і 8 верасня ён памірае ў Дзярэчыне пад Зэльвай — маёнтку Францішка Сапегі, генерала літоўскай артылерыі, і там жа быў пахаваны. Праз 9 год, 25 верасня 1821, года яго цела было эксгумавана і перавезена ў Вішніцы для пахавання ў сямейным склепе. Пасля смерці А. Сапегі застаўся невыдадзеным рукапіс "Аб звычаях і літаратуры славянскай"...

**Валерый ЯРМОЛЕНКА,**
**доктар геаграфічных навук.**

**ПАДАРОЖЖА АЛЯКСАНДРА САПЕГІ (1802 – 1804 гг.)**



*МАСТАКУ І ГРАМАДСКАМУ ДЗЕЯЧУ ВЯЧКУ ЦЕЛЕШУ — 60*

# ШАНОЎНЫ Ў РЫЗЕ БЕЛАРУС

Два дзесяцігоддзі назад старажытная Ліда рыхтавалася да свайго 600-гадовага юбілею. Клопаты з гэтай нагоды былі і ў журналістаў аб'яднанай газеты "Уперад", рэдактарам якой я быў тады. Мы хацелі як мага лепш паказаць на старонках выдання мінулае Ліды, яе гісторыю. Бо разумелі: не аднымі рапартамі, абавязацельствамі ды працэнтамі трэба "карміць" чытача. І пэўную дапамогу творчаму калектыву аказаў у той час мастак з Рыгі Вячка Целеш, чалавек, які нарадзіўся і вырас пад Ваўкавыскам. На маю просьбу Вячаслаў Міхайлавіч даслаў у рэдакцыю некалькі старых паштовак з відам нашага горада і захапляючы да іх артыкул. Той нумар газеты з гэтымі матэрыяламі і сёння захоўваецца чытачамі-краязнаўцамі.

А неўзабаве ў Лідзе адбылася мая сустрэча з шаноўным Вячкам і больш грунтоўнае знаёмства. Госць прапанаваў рэдакцыі новы змястоўны матэрыял. Так я дазнаўся пра хобі земляка — калекцыяніраванне паштовак. І, вядома ж, пра яго творчасць як мастака. А вялікая прага да малявання ў яго выявілася яшчэ ў школьныя гады, калі хлопец вучыўся ў Краснасельскай школе. Затым былі мастацкая студыя А. Петэрсана ў Рызе, падрыхтоўчыя курсы ў Латвійскай акадэміі мастацтваў і нарэшце сама акадэмія. Пасля атрымання дыплома малады мастак паступова рос і фарміраваўся як творца, радуючы прыхільнікаў і аматараў прыгожага. Аб гэтым сведчылі яго праца ў санаторыі "Тэрветэ", што знаходзіцца ў жывапісным куточку Земгаліі, і наладжаная там першая персанальная выстава. У Тэрветэ, потым у горадзе Добеле адбыліся чарговыя выставы мастака. А зараз яго творы вядомыя на шматлікіх вернісажах у Латвіі і Беларусі, у Літве і ў Эстоніі, Фінляндыі і Швецыі, ЗША і Канадзе... Дарэчы, выкананыя на высокім мастацкім узроўні пейзажы і нацюрморты, партрэты і экслібрысы В. Целеша захоўваюцца ў зборах многіх краін.

У творчасці мастака адчуваецца дабратворны ўплыў лепшых традыцый латышскага і беларускага жывапісу. Працы прыцягваюць гледача жыццёвай рэальнасцю, матэрыяльнасцю рэчаў і танальнай разнастайнасцю навакольнага свету. А яго партрэты, што створаны майстрам! Здаецца, назаўжды застануцца ў памяці вобразы славутых людзей Беларусі Францішка Скарыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, іншых знакамітых дзеячаў.

Вячка Целеш шмат зрабіў і робіць для актыўнай працы, так бы мовіць, калег па творчаму цэху. З яго лёгкай рукі ў пачатку 1991 года было ўтворана аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар". І з той пары Вячаслаў Міхайлавіч узначальвае гэтую суполку. Разам з сваімі вернымі памочнікамі ладзіць выставы, агульныя і персанальныя, арганізуе работу секцый, словам, спрыяе творчым удачам і самавыяўленню іншых. Аб аўтарытэце аб'яднання можна меркаваць па такому факту. У агульную сям'ю творцаў уступілі не толькі мастакі прыбалтыйскіх дзяржаў, а і краін з процілеглага боку Балтыкі, як напрыклад, Ян Кузьміцкі са Швецыі, ураджэнец Шчучыншчыны.

Колькі слоў аб цікавай і багатай калекцыі старых паштовак спадара Вячкі. Па-першае, яны ахопліваюць немалы адрэзак часу: канец XIX — пачатак XX стагоддзяў. Па-другое, бадай, няма такога горада ў Беларусі, з фотаздымкамі якога ў В. Целеша не было б паштовак, у чым я пераканаўся, наведаўшы ў пачатку 80-х гадоў гасцінную кватэру Вячаслава Міхайлавіча. У гасцях у яго быў тады разам са мною літаратар-даследчык Уладзімір Сакалоўскі, наш гродзенскі зямляк. Зацікаўленая гаворка ішла пра агульных знаёмых, навінкі літаратуры і мастацтва і г. д. Неўпрыкмет ляцеў час. І раптам гаспадар заўважыў, што пастаўленая на стол бутэлька з мужчынскім напоем апаражняецца зусім павольна і можа застацца да дна не запатрабаванай. Тады В. Целеш прымяніў арыгінальны спосаб павышэння застольнай актыўнасці. Да нас былі звернуты такія пытанні: "А вы бачылі фотаздымак першага ўрада БНР?", "А даводзілася вам бачыць дзяржаўны герб БНР?". Вядомая рэч, мы не бачылі такіх здымкаў. Каб пазнаёміцца з імі на паштоўках, вымушаны былі брацца за чаркі з пітвом. Дарэчы, на аснове згаданай калекцыі мастак выдаў у 1984 годзе ў выдавецтве "Беларусь" арыгінальную кнігу "Мінск на старых паштоўках". Падрыхтавана яшчэ адна кніга, ды ў наш час ёй вельмі складана пабачыць свет.

Прыемна ўсведамляць, што, нягледзячы на розныя цяжкасці, Вячка Целеш поўны творчых задум і аптымізму. Ён многа працуе як мастак і грамадскі дзеяч. Вось ужо чатыры гады дзейнічае ў Рызе беларуская школа. Бадай, адзіная ў замежжы, калі ўсе заняткі вядуцца на беларускай мове. Стварылі школу Вячаслаў Міхайлавіч і яго паплечнікі. Да месца будзе заўважыць, што наш зямляк з'яўляецца адным з заснавальнікаў і кіраўніком беларускага культурнага таварыства "Світанак", а ў створанай пры ім дзіцячай мастацкай студыі "Вясёлка" перадае юным суродзічам сакрэты малявання і жывапісу.

Вячка Целеш добра валодае латышскай і беларускай мовамі, шануе і прапагандуе мастацтва і традыцыі народаў-суседзяў. Таму адчувае разуменне і падтрымку ўладаў гэтых краін. Яшчэ ў савецкія часы кіраўнікі Рыгі выдзелілі мастаку памяшканне пад майстэрню. А год назад сейм суседняй дзяржавы надаў В. Целешу годнасць ганаровага грамадзяніна "За асабістыя заслугі перад Латвіяй". Што і казаць, пачэсная ацэнка!

У канцы верасня спадару Вячку споўнілася 60 гадоў. Упэўнены, што юбілей мастака і дзеяча нацыянальнага адраджэння разам з беларусамі Рыгі адзначалі іх латышскія сябры. Гэтак жа, як В. Целеш ушаноўвае нашых латвійскіх сяброў. Заадно заўважу: добрыя справы Вячаслава Міхайлавіча цэняць і помняць на яго роднай зямлі. І з нагоды ўгодкаў юбіляра гэты артыкул заканчваю папулярнымі на Гродзеншчыне словамі-пажаданнямі: "Многае лета!" — "Сто лят!"

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Мне 41 год. Чаму стаў урачом-неўрапатолагам?.. Увогуле ў дзяцінстве я больш за ўсё любіў маляваць. У гэтым мы з бацькам падобныя. Мама, помню, збірала ўсе мае малюнкі, захоўвала, а калі бацька вяртаўся з камандзіровак, паказвала яму. Бацька, дарэчы, вельмі падтрымліваў гэты мой занятак, можа таму, што сам заўсёды цягнуўся да жывапісу. Ён да гэтай пары малюе, нават маслам спрабаваў пісаць, а ў юныя гады, па-мойму, вучыўся ў мастацкай школе. Усе яго рукапісы запоўнены малюнкамі.

Калі пасля школы мне давялося выбіраць інстытут, бацька хацеў, каб я пайшоў па мастацкай частцы, і загарэўся дапамагчы мне ў гэтым. Але я, магчыма, інтуітыўна, прадбачыў, што маляванне добрае як хобі. Усё-такі мяне больш цягнула да біялогіі, прыродазнаўчых навук. А дружба бацькі з Уладзімірам Калкуном, вядомым у горадзе неўрапатолагам, які валодаў гіпнозам, мае зносіны з ім (ён быў тады заядлым рыбаком), неяк непрыкметна захапілі мяне, і я выбраў "мед". Спрачацца бацька не стаў. Ён увогуле чалавек лаяльны і цярплівы да якіх бы там ні было праяў іншых людзей. Цярпець не можа канфліктаў.

У школе я, здаралася, хуліганіў. Але ён ніколі не ўмешваўся ні ў мае школьныя справы, ні ў інстытуцкія.

*— А кім была ваша мама?*

— Яна выкладала рускую мову і літаратуру. І была вельмі дзейнай у тым, што тычылася сям'і, наладжвання быту. Гэта па яе ініцыятыве, да немалога засмучэння бацькі, брат пайшоў у ваеннае вучылішча. Цяпер ён ужо на пенсіі, дэмабілізаваўся ў чыне палкоўніка, жыве ў Мінску. У яго ёсць сын. У мяне двое, абодва школьнікі, і малодшага жонка назвала Васілём.

*— Так што ў вашай сям'і гэта ўжо традыцыя...*

— Дарэчы, у вёсцы Бычкі Ушацкага раёна, адкуль родам бацька, многа Быкавых, ёсць сярод іх і Васілі.

*— Вы там часта бывалі?*

— У дзяцінстве — так. А апошні раз гасціў за год да смерці бабулі, яна тады была даволі сталага веку, але дацягнула да дзевяноста гадоў. Цяпер там засталіся толькі дзядзька і цётка. У іх летась адпачываў на канікулах мой старэйшы сын. Гэта незвычайнае месца. Найпрыгажэйшае возера, над ім — крутыя схілы, парослыя лесам, вялікія валуны. А якія там захады сонца!.. У кагосьці з даследчыкаў творчасці Быкава я нават вычытаў, што нібыта гэтыя маляўнічыя ўзгоркі і азёры, сярод якіх раскінулася вёска, і зрабілі бацьку пісьменнікам. Шчыра кажучы, у тых мясцінах увогуле многа арыгінальных людзей. Паляўнічыя, якія блукаюць па лясах, па гушчарах, а потым расказваюць захапляючыя гісторыі. Рыбаловы — супер! Пчаляры — фанатыкі. Усякія ўмельцы. Кожны нечым вызначаўся, нечага дабіваўся.

*— У вас ёсць усе кнігі бацькі? Вы іх чыталі? Што-небудзь новае даведаліся ў іх пра бацьку?*

— Кнігі ёсць не ўсе, але большасць, ва ўсякім выпадку ўсе зборы твораў і тое, што выдадзена за рубяжом. У асноўным ён сам іх прыносіў, прывозіў, прысылаў. Калі выходзілі першыя кнігі, я быў яшчэ занадта малы. Потым, калі вучыўся ў малодшых класах, мне больш цікава было Фенімора Купера чытаць. Крыху пазней я дзеля цікавасці пачытаў "Альпійскую баладу", "Трэцюю ракету", але нейкага моцнага ўражання яны не зрабілі, хацелася больш кароткага і энергічнага стылю. Мы тады захапляліся Хемінгуэем, Сэлінджэрам, Хейлі. Да таго ж мяне моцна захапілі акеаналогія, тайны мора, я зачытваўся кнігамі Кусто.

А непрыемнасці і нягоды, аб якіх пісаў бацька, былі цяжкімі для ўспрыняцця і, відаць, яшчэ не па ўзросту. "Знак бяды" мне больш спадабаўся, напэўна, таму, што бацькоўская вёска пазнавальная, што гэта аўтабіяграфічна. Нядаўна бацька ўпершыню расказаў, як родны яго дзядзька (вёска ж іх апынулася на мяжы паміж Польшчай і Савецкай Беларуссю) застаўся на польскай тэрыторыі, а яны — на беларускай. Толькі кусты іх і падзялялі. Адтуль, бывала, крычаць: "Гэй, Мікола, як ты там?.." А нашы ў адказ маўчаць: ім перакрыквацца не дазвалялася.

Вядома, падрабязнасці і псіхалогія вясковага жыцця, партызанскага, ваеннага — гэта тое, што бацька перажыў сам.

А вось ужо пасля фільма "Узыходжанне", знятага па "Сотнікаву", мне зноў захацелася яго перачытаць...

Увогуле кнігі, якія былі дома, чыталі ў апошнюю чаргу. Спачатку праглыналі тыя, што бралі ў сяброў, у бібліятэцы.

*— Даўно вы сустракаліся апошні раз?*

— У чэрвені бацька быў у Гродне, зазірнуў на пару дзён перад ад'ездам у Фінляндыю. Прагуляўся па гораду, адзначыў, што Гродна прыходзіць у заняпад, што раней горад быў больш утульны, чысцейшы. Сустрэў на вуліцы старога прыяцеля, пагаварылі, але той яго, здаецца, не пазнаў. Такое са старымі здараецца...

Званіў з Фінляндыі, потым я званіў яму, мусіць, гэта дорага, я яшчэ не даведваўся...

Жыве бацька ў прыгарадзе Хельсінкі, даволі сціпла — аднапакаёвая кватэра, але ён чалавек некапрызны. Адпачывае, працуе, нешта піша. Скардзіцца, што вельмі перашкаджае моўны бар'ер, англійскай ён не ведае, таму дапамагаюць у размовах рускія, якія там жывуць. Сказаў, што пасля таго, як адсталі карэспандэнты, добра папрацаваў. Але мне здаецца, што доўга ён на фінскай зямлі не прабудзе...

*— Вам перашкаджае ці дапамагае вядомасць бацькі?*

— Калі я быў маленькім, вядомасць у яго была толькі гарадская. Потым, паколькі быў вельмі нясмелым, я саромеўся бацькоўскай вядомасці, чакаў нейкіх ускладненняў, падвохаў, мне лягчэй было, калі не ведалі, чый я сын. Нейкай практычнай карысці з гэтага я, відаць, не атрымаў. Да гэтай пары бянтэжуся, калі мяне прадстаўляюць як сына Быкава.

Хаця пісьменнікі цяпер не ў модзе. Іншая справа — зоркі эстрады, палітыкі. Але ўдзел бацькі ў палітыцы прыносіць яму вялікія непрыемнасці. Ды і вядомы ён апошнім часам больш як апазіцыянер, чым як пісьменнік.

*— Вам не хацелася калі-небудзь стаць не менш вядомым, чым бацька? Не даймаў такі комплекс?*

— Не, дабівацца вядомасці не хацелася. Мяне больш прыцягвала невядомасць, магчымасць спакойна займацца сваёй справай, знаходзіць час для рыбнай лоўлі, малявання. Нават лішнія тэлефонныя званкі мне перашкаджаюць.

А поспех, ён жа заўсёды звязаны з абавязкамі, з далейшай расплатай у выглядзе наведвальнікаў, званкоў, просьб, абяцанняў...

*— Але ў вашай рабоце ўсяму гэтаму таксама ёсць месца... Тым больш што ў неўралогію паступаюць дзеці з такімі сур'ёзнымі дыягназамі, як эпілепсія, энцэфаліт... Цяжка?*

— Так, усе гэтыя хваробы і нервовыя стрэсы ў дзяцей звязаны з вялікімі непрыемнасцямі, у асноўным сямейнымі. І праца наша часта бывае няўдзячнай, таму што мы лечым вынікі, але не можам ліквідаваць прычыны, якія правакуюць хваробу. Непрыемна і тое, што ўрач у стане ўдзяліць хвораму толькі некалькі мінут, а ўвесь астатні час аднімае пісаніна. Мы вядзём дзённікі, гісторыі хваробы, робім выпіскі, даведкі, выпісваем рэцэпты, падлічваем паказчыкі.

А лечым... мізэрным наборам прэпаратаў. Новых, распрацаваных за рубяжом няма, нават мінімуму. Няма і выбару айчынных. Адзін сасудзісты прэпарат, адзін неатропны і адзін процісутаргавы — на ўсе выпадкі жыцця.

*— Вы не сталі для бацькі сямейным урачом?*

— О, тут ён вялікі кансерватар, і сам ведае, як сябе лячыць. Аддае перавагу айчыннаму аспірыну. Аднойчы папрасіў было мяне дастаць яму дэфіцытнае лякарства ад астмы, але пакуль я шукаў, ён знайшоў яго сам.

*— А вашы хлопчыкі чыталі што-небудзь з кніг Быкава? Ім прыемна, што дзед — вядомы пісьменнік?*

— Яны заняты тэлевізарам, камп'ютэрам, з якім не параўнаецца ніякая кніга. Ды і падзей у іх больш, чым у нас, ім пакуль проста не да таго. А мы не прымушаем. Думаю, калі-небудзь яны самі захочуць прачытаць гэтыя кнігі. А пакуль ім больш цікавы жывы дзед. Хлопчыкі любяць бываць у яго ў Мінску, дзед водзіць іх па гораду, робіць падарункі.

Дома, калі паказваюць дзеда па тэлевізары, бягуць глядзець.

Разы два на год бацька прыязджае ў Гродна, я, бываючы ў Мінску, спыняюся ў яго. А між сустрэчамі перазвоньваемся.

*— На якой мове вы размаўляеце з бацькам і ў сям'і?*

— У часы майго дзяцінства ў Гродне ўсе гаварылі па-руску. І ў нашай сям'і таксама. А выязджаючы летам у вёску, мы слухалі і пераймалі сакавітую, "смачную" беларускую мову, але, шчыра кажучы, лексікон там быў не такі багаты, як у Караткевіча. Бацька не настойваў, каб мы гаварылі па-беларуску. Але калі ён ці хто-небудзь з гасцей гавораць па-беларуску, я магу падтрымаць гутарку. Часам з дзецьмі спрабуем гаварыць па-беларуску, але лягчэй і больш свабодна гэта атрымліваецца ў вёсцы.

*— Якія эпізоды з сумеснага жыцця з бацькам вам асабліва памятныя?*

— На старой кватэры па вуліцы Кашавога ў бацькі быў кабінет, поўны кніг, часопісаў, там стаяла пішучая машынка, на якой ён стукаў за поўнач, і вялікая канапа. Мы з братам пастаянна хацелі туды папасці, там так утульна было пасядзець, пачытаць. А там яшчэ былі вялікі акварыум і клетка з птушкамі.

Як ужо бацька ўмудраўся, не ведаю, але, бываючы ў Маскве (звычайна ён ездзіў у рэдакцыі часопісаў), абавязкова прывозіў адтуль у слоіку якіх-небудзь незвычайных рыбак.

Помню, пайшлі з ім на рыбалку, я яшчэ дашкольнікам быў, да вусця Ласасянкі, ля ўпадзення яе ў Нёман. Дзве гадзіны там пратарчалі і злавілі адну калючку. Ужо пазней я зразумеў, што для бацькі гэта зусім не рыбалка была, а магчымасць адпачыць ад мітусні, падумаць. Яму не хапала адзіноты і спакою, а працаваць бацька любіў у гадзіны, калі мы адсутнічалі дома.

... Мой субяседнік у адрозненне ад старэйшага брата знешне не падобны на бацьку. Але, апрача ціхай страсці да малявання, атрымаў у спадчыну ад яго почырк, а значыць, калі верыць графолагам, і характар. Найбольш падобнай рысай, што аб'ядноўвае яго з бацькам, урач Васіль Быкаў лічыць мяккасць і зноў звяртаецца да дзяцінства: "Мы носімся з братам па пакоях, усё дагары нагамі. Маці крычыць, выгаворвае, карае. Бацька — ніколі".

З гадамі старэйшы Быкаў стаў часцей даваць сыну жыццёвыя парады, а ў апошні свой прыезд заўважыў, што галоўнае ў жыцці — каб была прыстойная сям'я, а ў ёй — прыстойныя людзі.

**Таццяна НІКІЦІНА.**

("Народная газета", 28 жніўня 1998 года).

ПАЎНОЧНЫЯ АФІНЫ

# ВУЧОНЫЯ З`ЕХАЛІСЯ Ў РАКАЎ

**Несумненна, у параўнанні з міцкевічаўскімі юбілейнымі ўрачыстасцямі, якія нядаўна прайшлі ў нашай рэспубліцы, Ракаўскія чытанні выглядалі нашмат больш сціплымі. Але і для старажытнага мястэчка, і для ўсёй Валожыншчыны яны з'явіліся падзеяй надта прыкметнай.**

Вось ужо другі раз як вынік грамадскай ініцыятывы пры падтрымцы мясцовых сельсавецкай і раённых уладаў (на гэты раз шчырая падзяка мінскаму Інстытуту польскай культуры, Ракаўскаму сырзаводу, калгасам "Ракаўскі" і "Праца") у Ракаве, у памяшканні сярэдняй школы, прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя. Сёлета назва яе гучала так: "Ракаўскія Паўночныя Афіны: Мар'ян Здзяхоўскі, Эліза Ажэшка і праблемы культурных кантактаў народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы". Чаму ў тэматыцы чытанняў з'явілася прозвішча выдатнай польскай пісьменніцы, дарэчы, ураджэнкі і жыхаркі Беларусі? А справа ў тым, што роўна дзевяноста гадоў таму, у жніўні 1908 года, яна з Гродна прыязджала ў Ракаў па запрашэнню братоў Здзяхоўскіх, Мар'яна і Казіміра, карэнных ракаўцаў. Тыя чатыры дні, што правяла пісьменніца сярод цікавых людзей у гасцінным доме на беразе хуткаплыннай Ісламы, яна пазней назвала "залатымі хвілінамі", якія падаравала ёй жыццё. Менавіта яна ахрысціла Ракаў Паўночнымі Афінамі — за яго тагачасную культурную атмасферу, што тварылася найперш навуковай і творчай працай братоў Здзяхоўскіх (як, зрэшты, сёння — братоў Янушкевічаў). Сапраўды, у Ракаў да раманіста Казіміра (яго творы высока цаніла Ажэшка) і літаратуразнаўца, філосафа, тэолага, прафесара Ягелонскага (Кракаў), а затым Віленскага універсітэтаў Мар'яна Здзяхоўскага часта завітвалі вядомыя вучоныя, пісьменнікі, дзеячы культуры, сюды ішлі лісты з усёй Еўропы ад выдатных людзей. У прыватнасці, на адрас "Мінская губерня, пошта Ракаў, памешчыку Мар'яну Здзяхоўскаму" прыходзілі лісты ад самога Льва Талстога, з якім ракаўскі мысліцель быў асабіста знаёмы (наведаў Ясную Паляну; Л. Талстой нават напісаў да адной з кніг М. Здзяхоўскага прадмову).

Пра гэта і пра многае іншае гаварылася на Ракаўскіх чытаннях. Шмат што прысутныя на чытаннях успрымалі як адкрыццё. Своеасаблівае адкрыццё духоўных радовішчаў роднага краю, яго гісторыі, культуры. І не толькі старшакласнікі Ракаўскай СШ, якой, дарэчы, сёлета споўнілася 135 гадоў, не толькі настаўнікі і калгаснікі Ракава і Ракаўшчыны, але і ўсе ўдзельнікі і госці навуковых чытанняў: вядомая англійская паэтка і перакладчыца беларускай літаратуры Вера Рыч, польскі паэт-перакладчык Чэслаў Сенюх, паэт і прафесар з Мінска Алег Лойка, прарэктар Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Мікола Воінаў, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта Генадзь Пранєвіч і інш. Прычым, словы здзіўлення і захаплення выказвалі не толькі моваю прозы, але і паэзіі. Свае вершы пра Ракаў прачыталі Алег Лойка і — экспромт-акраверш на англійскай мове — Вера Рыч...

А адкрываць было што, захапляцца было чым. Вядомы літаратуразнавец з Польшчы прафесар Базыль Белаказовіч прааналізаваў арыгінальныя меркаванні М. Здзяхоўскага пра байранізм А. Міцкевіча і А. Пушкіна, прафесар Уладзімір Конан спыніўся на кніжцы Здзяхоўскага пра У. Сыракомлю і ацэнцы яе беларускім крытыкам У. Самойлам, аўтар гэтых радкоў засяродзіў увагу на ўкладзе Здзяхоўскага ў еўрапейскае славяназнаўства і кампаратывістыку. Прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікс Янушкевіч разважаў пра сучасную культурную сітуацыю Ракава і беларускіх мястэчак увогуле. Дацэнт Таццяна Кабржыцкая расказала пра сувязі Здзяхоўскага з Украінай і ўкраінскай культурай, кандыдат філалагічных навук Язэп Янушкевіч — пра Ракаў часоў Здзяхоўскіх, кандыдат гістарычных навук Эдвар Зайкоўскі — пра этнічную гісторыю Ракаўшчыны. Выпускнік Беларускага дзяржаўнага універсітэта паланіст Пятро Рагойша падрабязна распавёў пра саму гісторыю прыезду Элізы Ажэшка на ракаўскую зямлю... З не меншай цікавасцю былі выслуханы выступленні старшыні райвыканкома, старшыні Аргкамітэта сёлетніх Ракаўскіх чытанняў Валянціна Малішэўскага пра гераічнае мінулае і сённяшнія дасягненні працоўных Валожыншчыны, а таксама дырэктара Ракаўскай СШ Ніны Каваленка пра 135-гадовую гісторыю гэтай сельскай навучальнай установы.

Завяршальным момантам Ракаўскіх чытанняў з'явілася адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку сельскага клуба (на тым месцы калісьці стаяў дом Здзяхоўскіх) у гонар прыезду Элізы Ажэшка ў Ракаў.

**Вячаслаў РАГОЙША.**
**("Звязда").**

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

* * *

**Рэчка весела імчыць**
**між берагамі...**
**Ну а ўбок!**
**Не дазваляюць**
**берагі...**
**Ланцугамі**
**мы прыкуты,**
**ланцугамі**
**да цябе,**
**наш краю родны,**
**дарагі!**
**Войны**
**чорнымі**
**злавеснымі плугамі**
**колькі раз**
**тваe разворвалі лугі...**
**Ну а з тых,**
**хто быў прыкуты ланцугамі,**
**гінуў кожны,**
**то чацвёрты,**
**то другі...**
**Так вясной**
**гамоняць травы**
**пад нагамі,**
**каб пад восень**
**ціха скласціся ў стагі...**
**Так і мы...**
**Мы ўсе прыкуты**
**ланцугамі**
**да цябе,**
**наш край гаротны,**
**дарагі!**
**Сэрца сціснула,**
**нібыта абцугамі,**
**ад надзеі,**
**жалю,**
**болю**
**і тугі...**
**Ланцугамі**
**мы прыкуты,**
**ланцугамі...**
**Не здымай жа,**
**Божа,**
**нашы ланцугі!**



# НА ШТО ЗДОЛЬНАЕ МАСТАЦТВА МАЛАДЫХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

работы ў галіне жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і пры гэтым не эпаціравала гледача. А некаторыя авангардныя праекты выглядалі ў зале даволі адзінока. Таму і інсталяцыя "Асобы", створаная Ігарам Шчолакавым, разуменне сярод кіраўніцтва Палаца мастацтва не выклікала (праўда, аўтар атрымаў другую прэмію). Праект быў перапынены. Цэлафанавыя пакеты, плёнка, якія ёсць асноўва кампазіцый, пад уздзеяннем часу, ветру змяняюцца, губляюць свой першапачатковы выгляд.



Такая была задума аўтара. Сэнс яе і быў пагілдзець (і зняць на відэа) гэты працэс. Калі ж усё гэта ўбралі (бо кіраўніцтву здалося, што выгляд яго неэстэтычны), сэнс згубіўся. Праўда, пазней кампазіцыю аднавілі. Аднак натуральны ход праекта быў ужо перапынены.

Чаму выстава атрымалася такой спакойнай? Скульптар К. Селіханаў (атрымаў трэцюю прэмію) заўважыў наступнае: "Ніхто з мастакоў усур'ёз не верыў у гэтую выставу з самага пачатку. Усе лічылі яе фармальнасцю". У наш час мала хто верыць у захады прадстаўнікоў афіцыйных колаў, у мастацтве тым больш. Але адна справа не верыць, а іншая, згадзіцеся, баяцца выкаў дэманстрацыі сваіх работ...

Шмат гадоў ужо прайшло з часу, калі забаранялася вельмі многае ў мастацтве, калі слова "авангард" было непрыстойным. Але ж калі мастак не піша на заказ, піша для сябе, значыць, і для нас з вамі. Можа моладзь проста стамілася ад эксперыментаў у мастацтве, бясконцых гульняў з формай. Кожны ж ведае, што ў літаратуры існуе наогул каля сотні сюжэтаў, а яна іх выкарыстоўвае тысячагоддзі. Так і выяўленчае мастацтва. Наш глядач столькі бачыў (хай сабе і ў межах Беларусі), што ён ужо наогул амаль не атрымлівае задавальнення ад прафесійна напісанага пейзажа. Можа ў гэтым праблема? Тым не менш, калі праўда тое, што паказваць мастакам у Мінску дазволена ўсё, ёсць надзея на наступнай такой выставе ўбачыць і нешта больш свежае, яркае, чым на гэтай. А яна, мяркуючы па словах арганізатараў, не прымусіць чакаць сябе дзесяць гадоў, а пройдзе праз гады два.

І яшчэ ёсць адзін аспект гэтага пытання — адукацыйны. Канешне, калі ты не мастак, табе не дапаможа ніякае вучэнне. Аднак адукацыя для людзей з іскрай Божай можа адкрыць шмат новага. Сёння ж у Беларускай акадэміі мастацтваў ёсць некаторае несупадзенне сістэмы адукацыі ў ёй і патрэб студэнтаў. Па словах аднаго з самых вядомых беларускіх скульптараў і, дарэчы, выкладчыка акадэміі Уладзіміра Слабодчыкава, ёсць выпадкі, калі таленавітыя студэнты пакідаюць акадэмію, бо не прымаюць яе праграму навучання. "Тут, — падкрэсліў У. Слабодчыкаў, — узнікае пытанне пра іншую навучальную ўстанову, альтэрнатыўную акадэміі, якой, зразумела, улацыцьсвая свая асаблівая сістэма адукацыі".

Цяпер пра вынікі конкурсу. Прэміі, гваздзікі, цукеркі "Птушынае малако" ўручалі па намінацыях "Авангарднае мастацтва", "Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва", "Графіка", "Жывапіс". Былі таксама спецыяльныя прызы. Першую прэмію (5 мільёнаў рублёў) атрымаў за скульптуру Юрый Анушка, за графічныя работы — Валерыя Маляўкіна. Сярод авангардных работ вылучылі карціны Жанны Грак, сярод дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — Ірыны Каваленка.

Была яшчэ намінацыя "Самы малады ўдзельнік выставы". Галоўны прыз атрымала чатырнаццацігадовая мінчанка Дзяна Прыхадзька.

Наша газета пісала пра выхад кніжкі з ілюстрацыямі маленькай мастачкі, якія яна рабіла, калі ёй было 9 гадоў. Цяпер дзяўчынка ўдзельнічала ў рэспубліканскай выставе.

Гран-пры выставы атрымаў мастак з Оршы (выпускнік Віцебскага тэхналагічнага інстытута) Анатоль Жураўлёў за работу "Мадэль гульні "І" і "ІІ".

Дарэчы, хоць выстава і была рэспубліканскай, але, як заўсёды, большасць работ на ёй належала мінчанам. Анатоль Жураўлёў на гэты конт і наконт выставы сказаў наступныя, здаецца, вельмі слушныя словы: "Па ўсёй Беларусі ёсць шмат добрых мастакоў, якія не маюць магчымасці выстаўляцца. Зямля — шар. І справа не ў тым, адкуль мастак, а ў тым, ці ёсць мастак. І вельмі добра, што сённяшняя выстава сабрала разам непадобных мастакоў, дала ім шанц паказаць свае самыя розныя творы".

У хуткім часе выйдзе каталог выставы. Такім чынам, яна працягваецца.

**Алена СПАСЮК.**



**НА ЗДЫМКАХ: работы А. ЖУРАЎЛЁВА "Мадэль гульні"; ВАСІЛЬЕВА "Вольга"; А. ЦІМОШЧАНКІ "Матылі".**

*ГРОДЗЕНСКІ ЗААПАРК*

# У ЦАРСТВЕ ЖЫВЁЛ





Леў часта рыкае. Яго зычны голас чуваць над усім заапаркам. На волі, пачуўшы яго, усе жывёлы дрыжэлі б і ўцякалі куды вочы глядзяць. А тут ім хоць бы што: прывыклі. Гэтым разам і леў, і львіца, размораныя гарачым сонцам, выцягнуўшыся на ўвесь рост, мірна драмалі, быццам хацелі засведчыць наведвальнікам свой міралюбівы характар. А людзей, асабліва дзяцей, каля клетак драпежнікаў заўсёды шмат. Львы, тыгры, пума, пантэра...

Дзе яшчэ іх убачыш, акрамя Гродзенскага заапарка. Ён адзіны ў Беларусі, дзе можна пазнаёміцца з прадстаўнікамі жывёльнага свету ўсіх кантынентаў планеты. Тут іх 314 відаў, амаль 3 700 асобін.

Каго толькі няма! Слон, бізон, высакародныя алені, чырвоныя воўк, таджыкскі вінтарогі алень, зебры, зубр, мядзведзь, поні, бабры, малпы, змеі, розныя птушкі — ад вялізнага сіпа белагаловага да малечкіх калібры...

Плошча заапарка невялікая, усяго каля трох з паловай гектараў. Цеснавата. Але жывёлы адчуваюць сябе добра. Пра гэта сведчыць і тое, што большасць з іх размнажаецца. За апошнія гады ў няволі нарадзіліся дзесяткі малышоў, прыплод далі муфлоны, які, маралы, алені, яноты, шыншылы, манакі, паўночныя алені і іншыя.

Летась заапарк адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе. За гэты час ён перажыў нямала бяды і радасці. Падчас вайны гітлераўцы амаль што знішчылі яго, жывёл вывезлі ў Германію. Але неўзабаве пасля вызвалення горада заапарк пачаў дзейнічаць. Сёння ён — салідная навукова-асветная ўстанова. Загадчыца сектара Надзея Герасімчук расказвае:

— Штогод заапарк наведвае прыкладна трыста тысяч чалавек. Яны не толькі любуюцца жывёламі, але і пазнаюць іх разнастайнасць, набываюць веды пра іх, пра іх жыццё. У людзей выхоўваецца любоў да прыроды.

Прапаганда прыродазнаўчых ведаў цесна звязана з задачамі аховы прыроды, якія ажыццяўляюцца ў рэспубліцы. Праводзяцца экскурсіі, чытаюцца лекцыі на тэмы: "Запаведнікі Беларусі", "Ахова жывёльнага свету", "Чырвоная кніга", "Птушкі — нашы сябры", "Звяры і птушкі роднага краю" і іншыя. З групай жывёл работнікі заапарка выязджалі ў гарады і вялікія вёскі вобласці.

Заапарк выконвае ролю вучэбнага цэнтра школ горада. У ім праводзяцца некаторыя ўрокі. Школы заказваюць лекцыі на ўрокі заалогіі, прыродазнаўства, на пазакласныя гадзіны па распрацаванай у заапарку тэматыцы.

Вельмі разнастайная работа заапарка. У ім наладжваюцца розныя мерапрыемствы. На свята, прысвечанае Міжнароднаму дню аховы навакольнага асяроддзя, збіраецца шмат народу, прыходзяць цэлымі сем'ямі. Людзі ахвотна ўдзельнічаюць у розных конкурсах, у віктарыне "Поле цудаў", слухаюць гутаркі, знаёмяцца з жывёламі, малыя катаюцца на поні.

У гуртку юных натуралістаў шмат хлопчыкаў і дзяўчынак. Яны паглыблена вывучаюць жывёльны свет. Для іх наладжваюцца экскурсіі ў выдатныя мясціны Беларусі, у прыватнасці, у Белавежскую пушчу, у Цэнтральны батанічны сад у Мінску. Пастаянна дзейнічае конкурс дзіцячага малюнка пра жывёл. Яго вынікі падводзяцца раз у год, пераможцы ўзнагароджваюцца. Для асабліва цікаўных дзяцей створаны гурткі па інтарэсах.

Некалькі гадоў таму ў заапарка быў цяжкі час: не хапала грошай на корм утрыманцам. Але выручылі фундатары. Калгасы далі сена, фуражу, бульбы. І сёння ёсць спонсары. Абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя выдзеліў трыста мільёнаў рублёў. Яны выкарыстаны на бягучыя патрэбы, на іх куплены амурскія тыгры, персідскія леапарды, таджыкскі вінтарогі казёл, чырвоны воўк, іншыя жывёлы. Абласны камітэт прыродных рэсурсаў даў грошай на рамонт агароджы.

Незабыўнае ўражанне застаецца ад царства жывёл. Нібы пабываў у розных краінах свету, паблукаў па джунглях і стэпах. І прыемна, і пазнавальна.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**





**ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ СПЯВАЦЬ**

# СВІЦЯЗЬ

Lyric Ja. Chvorast I. | I. **Lučanok (b. 1938)**
Transl. G. Picarda | рэд. Г. П.



1. Чаруеш ты, Свіцязь, шырокім
прасторам,
І ціхімі шэптамі хвалі блакітнай.
Табою любуюцца месяц і зоры
І птушкі нястомныя ў гушчы
ракітнай.

*Прыпеў:*
*Свіцязь — край былін адвечных,*
*Свіцязь — сонечны прыбой,*
*Край любімы мой.*

2. Як хараша ўсюды ўгары над
табою
Далёкія зоркі на небе гараць,
А глянеш у возера — там, пад вадою,
І неба другое, і зоркі дрыжаць.

*Прыпеў.*

3. Шчаслівыя людзі на бераг
прыходзяць,
Каб песнямі славіць жыцця свайго
май,
І свой карагод не русалкі заводзяць,
А тыя, што працай праславілі край.

*Прыпеў.*

1. How charming, fair Svitiaz, the spread of your
[waters,
How winsome the sound of your waves through the
[rushes;
The moon and the stars are your sister and
[daughters,
Your groves the recort of sweet blackbirds and
[thrushes.

*Refrain:*
*Svitiaz! — fair, yef old story,*
*Lakeland bathedin in sunlit glory —*
*My beloved land!*

2. See! high up above, in the dark vault of
[heaven
Where bright constellations now twinkle and glow:
Look how, where your waters stretch tranquil at
[even,
Their shimmering path is reflected below.

*Refrain.*

3. Here country-folk gather to dance in the
[springtime
They sing carefree songs as they meet by your
[strand;
No syiphide or nymph leads their light-footed
[ringtime,
But those whose hard toil has embellished this
[land

*Refrain.*

*Песня даслана ў рэдакцыю Г. Пікарда.*
*Пераклад на англійскую мову Уолтэра Мэя.*

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1 721.
Падпісана да друку 5. 10. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.